НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 19 (760) 23 мая 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў м... ...авец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць шт... ...рады

## Топ-5 самых дарагіх катэджаў Мінска

І кватэра за 950 тысяч даляраў. Старонка 6.



## Наша краіна кратавіна

Беларускамоўныя банеры футбольных фанатаў. Старонка 9.





# Статут вернецца?

Адгукнуліся спонсары і нават Нацбанк. За тыдзень сабралі 26 мільёнаў. Старонка 11.

### Палітыка

## Хунта ў эміграцыі

Палкоўнік Барадач хоча аб'яднаць усіх праціўнікаў Лукашэнкі. Але за межамі. **Старонка 4.**



### Воля і пятля

## Збілі за бел-чырвона-белы сцяг

Андрэй Моўчан выйшаў у салідарнасць з Каваленкам. **Старонка 7.**



### Кіно

## «А калі заўтра цэны панізяцца?»

Новы беларускі фільм пра размеркаванне. **Старонка 11.**



### Пошта

## «Дырэктарскі лес»

Просты народ пілуе, будуе, губляе здароўе. **Старонка 12.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

**Фотафакт**



«Вы — вялікі талент», — пры канцы красавіка Аляксандр Лукашэнка павіншаваў расійскага спевака Філіпа Кіркорава з 45-годдзем. А яшчэ праз колькі тыдняў Лукашэнка ўзнагародзіў Кіркорава ордэнам Францішка Скарыны — за «значны ўклад у развіццё і ўмацаванне беларуска-расійскіх культурных сувязей, высокае выканаўчае майстэрства». Тым часам 45-годдзе лідара беларускага гурта «Палац» Алега Хаменкі, якое той адзначаў незадоўга да Філіпа, прайшло па-за ўвагай Лукашэнкі.

Кіркораў устаў у адзін шэраг з Бабкінай, Баскавым, Газманавым ды многімі іншымі артыстамі, якія пасяваюць паўдзельнічаць і ў «бенефісах» на славу Крамля, і ў «Славянскіх базарах».

Нашы калегі з «Комсомольской правды» падлавілі Кіркорава на тым, што ён не ведаў, хто такі Скарына. Малайчына, не стаў падманваць. А мог жа і расказаць, што гэта ж той, які жыў у Піцеры.

**Сямён Печанко**

### Сціслa

**3 ліпеня парад пройдзе «па-багатаму»**

У ім возьмуць удзел курсанты і вайскоўцы. Генеральная рэпетыцыя мае прайсці ноччу 28 і 30 чэрвеня на скрыжаванні праспектаў Пераможцаў і Машэрава.

**2013 — год Паўстання**

Спаўняцца 150 гадоў з часу паўстання 1863 года супраць Расійскай імперыі. Пакуль невядома, якімі будуць святкаванні ў Беларусі, але ўжо вядома, што Сойм Літвы на сваім пасяджэнні 22 мая абвясціў наступны год Годам паўстання-1863.

**Google Chrome ўпершыню абагнаў па папулярнасці Internet Explorer**

Браўзер Google Chrome па выніках мінулага тыдня ўпершыню абагнаў па папулярнасці галоўнага канкурэнта Microsoft Internet Explorer, заняўшы першае месца на сусветным рынку. На трэцім месцы застаўся Mozilla Firefox. Далей ідуць браўзеры Safari і Opera. Паводле даследаванняў у Беларусі, доля карыстальнікаў Хрома пакуль ніжэйшая за сярэднесусветную, а Оперы — наадварот, значна вышэйшая.

**«Доктар Хаўс»: хэпі-энд**

«І глядач, і доктар стаміліся», — патлумачылі прадзюсары рашэнне спыніць папулярны тэлесерыял. У заключным эпізодзе васьмігадовай эпапеі галоўны герой «загінуў» і «ўваскрос». У апошняй серыі доктар Хаўс апынуўся ў няпростых умовах — яму, раней вызваленаму ўмоўна-датэрмінова, пагражала новае турэмнае зняволенне за інцыдэнт з засорам сістэмы каналізацыі бальніцы, які ў выніку прывёў да паломкі апарата МРТ. Серыя называецца Everybody dies («Усе загінулі»). Выканаўца ролі галоўнага героя брытанскі актор Х'ю Лоры трапіў у Кнігу рэкордаў Гінэса як самы высокааплатны актор тэлесерыяла. Яго ганарары за кожную серыю ў 2010 дасягнулі беспрэцэдэнтных 700 тысяч даляраў. Цяпер Лоры хоча засярodзіцца на музычнай дзейнасці — ён вакаліст у дабрачыннай рок-групе Band From TV і нядаўна выпусціў альбом Let them Talk, з прэзентацыяй якога выступіць у Мінску 22 чэрвеня.

**СГ**

### Рэкамендуем

**Марата Новікава хочуць пазбавіць статуса галоўнага кандытара краіны**

Спроба бізнэсоўца Новікава ўзяць дэ-юрэ пад кантроль дзве найбуйнейшыя кандытарскія фабрыкі Беларусі скончылася для яго масай непрыемнасцяў...

**Грамадства Comedy club**

Спектакль Купалаўскага тэатра «Людзі на балоце»: публіка рагоча там, дзе трэба плакаць. Чаму? Разважае Марына Казлоўская.

**Ці сапраўды ў Беларусі зашмат лядовых палацаў?**

Правал зборнай на чэмпіянаце свету па хакеі прымусіў задумацца. У Францыі ёсць 124 крытыя коўзанкі. У нас толькі 28. Юніёраў у Францыі аж 9,5 тысячы. У нас — 3,4… Піша Зміцер Панкавец.

**Усё гэта можна прачытаць на nn.by**

**Ад Рэдактара**

## «Палітычна заклапочаны рэпарцёр» з «фабрыкі сенсацый»

*Лакіроўшчыкі рэчаіснасці з Віцебска крытыкуюць «Нашу Ніву».*

У нумары ад 15 мая абласная дзяржаўная газета «Віцебскі рабочы» надрукавала артыкул «Фабрика «сенсаций», или Почем нынче патриотизм?». Аўтарка Алена Бегунова сцвярджае, што ў недзяржаўных СМІ друкуюцца матэрыялы, аўтары якіх «дзеля сумнеўнай, а прасцей кажучы, бруднай папулярнасці, дазваляюць сабе парушаць самой прыродай вызначаныя нормы чалавечай маралі». Значная частка артыкула прысвечаная рэпартажу карэспандэнта «НН» Сяргея Гудзіліна «Край Беларусі. Поўнач: Асвея» (№12).

Аўтарка кіпіць праведным гневам: называе газету «фабрыкай сенсацый», а аўтара — «сталічным папулістам», які «палічыў за гонар наведаць дамы ўсіх мясцовых алкашоў», вінавацціць у выкарыстанні «брудных тэхналогій», неаб'ектыўнасці, несумленнасці, парушэннях закона. І пры канцы, у найлепшых савецкіх традыцыях, заклікае журналіста судзіць.

Прычым ні аўтара, ні назвы выдання Бегунова не называе. Ведае, што інакш ёй самой пагражала б судовае разбіральніцтва. Напрыклад, за вось такі паклёп: маўляў, рэпарцёр «Нашай Нівы»... частаваў дзяцей півам. Хочацца нагадаць сп-ні Бегуновай і яе працадаўцам, што справы аб гонары, годнасці і дзелавой рэпутацыі не маюць тэрміну даўнасці. І, як кажа беларуская прыказка, да пары збан ваду носіць.

Адразу некалькі пасланняў бачацца ў артыкуле абласной дзяржаўнай газеты. Першае — «мы лаяльныя». Мы выступаем супраць тых, хто асмельваецца крытыкаваць уладу. Другое пасланне — ад мясцовых кіраўнікоў, «у нас усё добра». За ім хаваецца страх: а раптам мінскае начальства, прачытаўшы артыкул, накіруе праверку ў Асвею? Праверак начальнікі, прызначаныя зверху, баяцца намнога больш, чым людскога меркавання.

Чаму журналіст пісаў аб праблемах — абураецца аўтарка. Чаму не напісаў пра першую ў Беларусі конную пагранзаставу і выдатную дзіцячую пляцоўку ля школы? Калі чытаеш артыкул Бегуновай, складаецца ўражанне, што аўтарка і сама верыць у створаны ёй вобраз «гасцінная і даверлівая глыбінка». Але колькі можна рабіць з людзей ідыётаў? Між іншым, рэпартаж складаецца з фотаў і відэа. Яны гавораць самі за сябе.

«Наша Ніва» ніколі не смакуе негатыўныя праявы жыцця, але і лакіраваць рэчаіснасць мы не збіраемся. Пра галечу, запалохaнасць, дэпрэсіўнасць беларускай правінцыі мы чуем кожны дзень — з чытацкіх лістоў і тэлефанаванняў, падчас паездак па краіне. Гэта праблема нацыянальнага маштабу. Гэта наша будучыня співаецца. І лічым сваім абавязкам пісаць аб гэтым. А вось дзяржаўныя выданні палохаюцца праўды жыцця.

### Самае чытанае на nn.by за 16—22 мая

1. Вася Абломаў, Ксенія Сабчак, Леанід Парфёнаў напісалі песню-зварот да Пуціна — відэа
2. «Адважная ахова Пуціна» — фотафакт
3. Як выжыць на $4000?
4. «Апазіцыйная хунта ў эміграцыі? Такой экзотыкі свет яшчэ не бачыў»
5. Цыбліенка перамагла: «З-за санкцый я не магу спакойна працаваць, у мяне падскочыў ціск»
6. Магчымасць вярнуць у краіну арыгінальнае выданне Статута ВКЛ з'явілася ў беларусаў
7. Дзёрскі перформанс на цэнтральным праспэкце Мінска
8. Статут вернецца ў Беларусь? Людзі сабралі 22 мільёны за 3 дні
9. 15 сутак за плакат «Мусарок»
10. Малады хлопец загінуў у суботу ў метро на «Нямізе»



**Былы грузчык з мінскага піўзавода зрабіўся расійскім міністрам**

Пасаду міністра без партфеля атрымаў у новым расійскім урадзе 21 мая ўраджэнец Мінска 40-гадовы мільярдэр Міхаіл Абызаў. Першыя свае грошы Абызаў зарабіў грузчыкам на піўзаводзе «Беларусь», які цяпер называецца «Аліварыя». Ва ўрадзе Дзмітрыя Мядзведзева ён будзе адказваць за новы мадэрнізацыйны праект «Вялікі ўрад». У рэйтынгу Forbes наш зямляк займае 76-е месца. Яго маёмасць ацэньваецца ў 1 млрд 200 мільёнаў даляраў. Асноўныя актывы мільярдэра — група кампаній RU-COM. У Беларусі кампаніі групы Абызава займаюцца энергетычным інжынірынгам. У прыватнасці, у 2011 годзе адна з яго кампаніяў выйграла тэндар на мадэрнізацыю барысаўскага ўчастка Жодзінскай ЦЭЦ.

Міхаіл Абызаў нарадзіўся ў Мінску ў 1972, жанаты, трое дзяцей.

Цікава, што ў канцы 80-х ён павінен быў з жонкай і яе бацькамі эміграваць у ЗША, таму сышоў з другога курса мехмата МДУ. Аднак праз тое, што грошы на ад'езд былі скрадзеныя, застаўся ў Расіі.

**Сяргей Гезгала**

# «З-за санкцый я не магу спакойна працаваць, у мяне падскочыў ціск»

Івашкевіча **аштрафавалі на 500 тысяч** рублёў за заклікі да санкцый.

Работніца Мазырскага НПЗ Марына Цыбліенка падала ў суд на апазіцыянера Віктара Івашкевіча. Падставай для пазову сталі заклікі Івашкевіча да еўрапейскіх кампаній байкатаваць беларускія нафтапрадукты.

Напачатку планавалася, што 22 мая адбудзецца дасудовае пасяджэнне. Але суддзя Ірына Ляўкова прапанавала пачаць сам працэс, на што абодва бакі пагадзіліся.

«Адсутнічае ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Я перажываю сапраўдны стрэс. Я не магу спакойна працаваць. А раптам з-за санкцыяў я страчу працу? У мяне падскочыў ціск і пачаліся неўрозы. Гэтая тэма пастаянна абмяркоўваецца ў калектыве...» — ледзь не са слязьмі прамаўляла мазырчанка.

«І так мала плацяць, а вы хочаце яшчэ горай зрабіць? Які ваш унёсак у бюджэт краіны? Вы плаціце падаткі?» — маўляў, чаго дамагаецца Івашкевіч сваімі заклікамі.

Жанчына, як падалося, шчыра верыць у тое, што гаворыць. Яна падрыхтавалася да суда (альбо яе падрыхтавалі). Цыбліенка цытавала словы з інтэрв'ю Івашкевіча. Пытанні для яго былі запісаныя на паперы.




У Марыны Цыбліенкі была ўнушальная група падтрымкі.

Віктар спрабаваў давесці, што пагаршэнне эканамічнага становішча выкліканае не яго заклікамі, а дзеяннямі ўраду. Дэвальвацыя рубля мінулага года не ідзе ні ў якае параўнанне з заклікамі да санкцый.

«Пасля леташняй дэвальвацыі вы выставілі пазоў Пракаповічу, які гэта зрабіў — рэальна падарваў ваша матэрыяльнае становішча?» — пытанне Івашкевіча гучала як рытарычнае. Ён запытаўся, чаму рэальнае пагаршэнне сітуацыі не выклікала ў жанчыны маральных пакутаў, а гіпатэтычныя санкцыі — выклікалі.

Цыбліенка не адмаўляла, што эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршала. Але яна не лічыць, што ў гэтым вінавата кіраўніцтва Беларусі.

«Я лічу, калі вы скажаце не ўводзіць санкцыі, іх не ўвядуць. А калі вы заклічаце да іх, то могуць прыслухацца. Палічаць, што так думае большасць», — казала работніца НПЗ.

Група падтрымкі Марыны Цыбліенкі ў зале суда складалася з чалавек 10—12. Яны эмацыйна рэагавалі на словы Івашкевіча. Увесь час перамаўляліся паміж сабой, даводзячы абсурднасць і галаслоўнасць, на іх думку, слоў Івашкевіча. Пасля некалькіх заўваг суддзя выдаліла дзвюх жанчын з залы. Але, нават выходзячы, яны паспрабавалі агрызацца з Івашкевічам.

Суд Цыбліенка выйграла. Івашкевіч павінен сплаціць ёй 500 тысяч кампенсацыі. Наступны пралетарскі пазоў будзе разглядацца супраць Дзмітрыя Уса.

**Сяргей Макарэвіч**

# «Советской Белоруссіі» будзе больш

Дзяржгазеты аб'ядноўваюць. «Тэматыка і форма матэрыялаў у іх **мала адрозніваюцца**».

Міністэрства інфармацыі рыхтуе маштабную рэформу сістэмы рэспубліканскага друку. Па словах міністра Алега Праляскоўскага, ужо да канца 2012 будуць створаныя два выдавецкія дамы. «Краіна невялікая, а рэспубліканскіх газет пяць, у той час як у вялікай Расіі ўсяго адна агульнафедэральная [дзяржаўная] газета», — канстатаваў ён.

Праляскоўскі шчыра прызнаўся, што тэматыка матэрыялаў і форма іх падачы у выданнях мала адрозніваюцца. Па яго словах, зыходным пунктам у ідэі стварэння медыяхолдынгаў была складаная эканамічная сітуацыя, але «справа не ў грошах — справа ў чытачы».

Мяркуецца, што ў першы, «грамадска-палітычны» выдавецкі дом увойдуць «СБ. Беларусь сегодня», «Рэспубліка», «Народная газета» і «Белорусская ніва». Першая з іх стаіць асобна — яна мае наклад у 400 тысяч асобнікаў, каля чвэрці з якіх трапляюць у розніцы гандаль. Астатнія газеты маюць наклад да 30 тысяч асобнікаў, з якіх, паводле леташніх дадзеных, каля 90—95% распаўсюджваюцца па падпісцы. Але як адбываецца «падпіска» на дзяржаўныя СМІ ў Беларусі, усім добра вядома.

Другі выдавецкі дом, культурніцкага профілю, будзе складацца з холдынга «Літаратура і мастацтва» і газеты «Звязда». У выніку адзінае беларускамоўнае штодзённае выданне будзе канчатkова адсунутае ад грамадска-палітычнай праблематыкі.

Унутры рэдакцыі «Звязды» трохі супакоеныя, што яны ствараюць асобны холдынг. Мяркуюць, што астатнім газетам будзе складаней. «Звяздоўцы» спадзяюцца ўсё ж неяк захаваць грамадска-палітычную тэматыку, інакш будзе цяжка выйграваць барацьбу за чытача. Па нашых звестках, унутры «Беларускай нівы» нават выношваецца праграма абставанні «Аграмедыяхолдынга». Толькі пакуль няясна, з кім аб'ядноўвацца. Раёнкі ж загадалі не чапаць.

Цяпер вядзецца аб'яднанне юрыдычных асоб. «На першым этапе самі газеты захаваюцца. Аптымізуецца кіраўніцкі апарат», — растлумачыў Праляскоўскі. Але не выключыў, што канчатковым вынікам аб'яднання стане выданне адной грамадска-палітычнай газеты. Яна мусіць даць рашучы ідэалагічны бой апанентам і ў друкаваным выглядзе, і ў інтэрнэце, дзе старонкі дзяржаўных СМІ адстаюць у папулярнасці.

**Ягор Марціновіч**

### Бухгалтэрыя дзяржаўнага СМІ

«Народная газета» з'яўляецца акцыянерным таварыствам, хоць кантрольны пакет і належыць дзяржаве. Рэшта акцый — у «творчага калектыву рэдакцыі».

За першае паўгоддзе 2011 баланс ААТ «Народная газета» дзіўным чынам склаў роўна нуль рублёў, прычым стратаў не было за кошт «пазарэалізацыйных даходаў» памерам амаль 300 мільёнаў рублёў. У трэцім квартале таямнічая дапамога скончылася і газета стала стратнай на 333 мільёны рублёў.

### Заснавальнікі дзяржаўнага друку Беларусі

Адміністрацыя прэзідэнта — «СБ. Беларусь сегодня» (Советская Белоруссия);

Савет міністраў — «Звязда», «Рэспубліка», «Знамя юности», «Белорусская нива»;

Міністэрства інфармацыі — холдынг «Літаратура і мастацтва» (газета «Літаратура і мастацтва», часопісы «Маладосць», «Нёман», «Полымя», «Вожык»);

Мінгарвыканкам — агенцтва «Мінск-Навіны» (газеты «Вечерний Минск», «Минский курьер»).



Праляскоўскі (справа): даць рашучы бой апанентам.

Згодна з бюджэтам-2012, на перыядычны друк і выдавецтвы выдаткоўваецца 53 мільярды рублёў.

# Павышэнне тарыфаў на паслугі ЖКГ будзе паэтапным

Праз тры гады будзем **аплочваць 60%** ад рэальнай цаны.

Пра гэта паведаміў намеснік міністра ЖКГ Анатоль Шагун. Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця прадугледжана да 2015 выйсці на 60 працэнтаў кампенсацыі насельніцтвам затрат на аказанне жыллёва-камунальных паслуг. Да стапрацэнтнай кампенсацыі тарыфы будуць у першую чаргу павышацца на тыя паслугі, якія маюць невысокі сабекошт, — тэхабслугоўванне жылфонду, водазабеспячэнне, каналізацыя, вываз адходаў, абслугоўванне ліфтаў.

«Па цеплазабеспячэнні нам будзе даволі складана выйсці на 100% кампенсацыі (гэта запатрабуе істотнага павышэння тарыфу)», — адзначыў Анатоль Шагун.

Удасканаленне тарыфнай палітыкі, на яго думку, будзе садзейнічаць развіццю канкурэнцыі на рынку жыллёва-камунальных паслуг. Пакуль прадпрыемствы прыватнай формы ўласнасці вялікай актыўнасці ў гэтым пытанні не праяўляюць.

**БелТА**

## Сцісла

### Літвіна пераабраная

Жанна Літвіна засталася старшынёй Беларускай асацыяцыі журналістаў. За яе прагаласавалі адзінагалосна. Намеснікамі засталіся Андрэй Бастунец, Аляксандр Старыкевіч, Аліна Сураец і ўпершыню шэф-рэдактар «Народнай волі» Святлана Калінкіна.

### Статкевіч за ўдзел

Партыя БНФ, Рух «За Свабоду», «Гавары праўду» і «Справядлівы свет» выступаюць за ўдзел у парламенцкіх выбарах. Таксама за ўдзел выказаўся ў сваіх лістах на волю палітвязень Мікола Статкевіч.

### Хакей будзе

Кангрэс Міжнароднай федэрацыі хакея ў Хельсінкі зацвердзіў, што першынства 2014 адбудзецца ў Мінску. За перанос не выказаўся ніхто з удзельнікаў пасяджэння.

### Пуцін прыляціць...

...у Мінск 31 мая. Гэта будзе першы яго афіцыйны замежны візіт у статусе кіраўніка расійскай дзяржавы.

**ЗП**

# Хунта ў выгнанні

**Палкоўнік Барадач** хоча аб'яднаць усіх праціўнікаў Лукашэнкі. Але за межамі.

«Я стаміўся ад усіх планаў падтрымкі апазіцыі ў Беларусі. Апазіцыя падзеленая. У яе няма яснай пазіцыі ў справе падрыхтоўкі да наступных выбараў, — сказаў літоўскі міністр замежных справаў Ажубаліс. — Я бачу адзін даволі радыкальны спосаб. Разам з нашымі амерыканскімі сябрамі нам трэба пачаць думаць пра нейкую пераходную раду. Трэба стварыць альтэрнатыўны цэнтр улады».

Перад гэтым у падобным рэчышчы выказваўся нямецкі дыпламат Ганс-Георг Вік.

Цікава, што ў гэты самы час пра сваю ініцыятыву заявілі палкоўнік спецназа ў адстаўцы Уладзімір Барадач і былы КДБіст Ануфры Рамановіч. Яны даўно далучыліся да апазіцыі, у выніку чаго перажылі «наезды» на сябе і палічылі за лепшае выехаць з краіны. Барадач цяпер жыве ў Германіі, Рамановіч — у Польшчы.

Хто яшчэ ў тым удзельнічае, Барадач не назваў, тлумачачы мэтамі бяспекі.

Варта адзначыць, што размовы наконт урада ў выгнанні вяліся даўно. Сярод ініцыятараў іх былі, напрыклад, некаторыя сябры Саннікава. Аднак ініцыятыва выглядала сепаратнай. Таму інтэлектуалы (Запруднік, Арлоў) і многія апазіцыйныя лідары (Някляеў, Мілінкевіч) выступілі з заявай, што не трэба іншага ўрада ў выгнанні, апроч Рады БНР, а лёс Беларусі будзе рашацца ўнутры краіны.

«Хартыя-97» перайшла на пазіцыю вычэквання ў гэтым пытанні. Затое ініцыятыву ўзяў на сябе палкоўнік Барадач. У сярэдзіне 1990-х ён камандаваў мар'інагорскім спецназам. У 1996-м Барадач выступіў на баку Канстытуцыі, супраць Лукашэнкі.

Унутры Беларусі ў многіх існуе меркаванне, што такі ценявы ўрад больш патрэбны еўрапейскім краінам, чым самой Беларусі.

Ну і рызыка адпаведна змяншаецца.

«Урад з вайскоўцаў у свеце звычайна называюць ваеннай хунтай. Апазіцыйная хунта ў эміграцыі — такой экзотыкі свет яшчэ не бачыў», — іранічна заўважыў палітычны аглядальнік Валер Карбалевіч.

Лідар КХП-БНФ Зянон Пазняк кажа, што ў яго няма падставаў не давяраць Барадачу, але ў той жа час засцерагае: Рада БНР працягвае традыцыю і складаецца з заслужаных асобаў. А вось нікім не абраным новым урадам пры патрэбе змогуць лягчэй маніпуляваць чужынцы.

Блізкі да «Хартыі» Станіслаў Шушкевіч ідэю ўрада ў выгнанні злёгку пакрытыкаваў.

Адной з галоўных мэтаў Барадач называе аб'яднанне апазіцыі.

«Мы будзем выбіраць лідараў, якіх не спыніць страх ні за сябе, ні за сям'ю, — кажа палкоўнік. — Мы павінны працаваць на аб'яднанне ўсіх праціўнікаў рэжыму». Канкрэтныя планы пакуль не агучваюцца.

Пры гэтым Барадач ужо праявіў недалікатнасць, намякнуўшы, што многія вядомыя дысідэнты ўнутры краіны «працуюць на рэжым». Між тым, для чалавека, які прэтэндуе на тое, каб стаць ядналным цэнтрам, такая канфліктнасць недапушчальная.

Як выглядае, у эміграцыі сабралася ўжо нямала палкоўнікаў, толькі няма ў іх палкоў.

**Зміцер Панкавец**

**Урад у выгнанні**

«Урадападобная» палітычная група, якая называе сябе легітымнай уладай у краіне, але з прычыны розных акалічнасцей не мае рэальнай улады. Функцыянуе з разлікам, што некалі вернецца на радзіму. Ад 1920 існуе Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні. У час існавання сацыялістычнага блока існавалі ўрады ў выгнанні Балгарыі (размяшчаўся ў Вене), Польшчы (Лондан), Чэхаславакіі (Парыж). Сёння існуюць у выгнанні ўрады Тыбета, Лаоса, Ірана.



**Фота з архіва. 1997. На выхадзе з турмы на Акрэсціна генерал Юрый Захаранка надзявае мундзір на палкоўніка Барадача. Са сцягам былы КДБіст Валер Костка.**

# Ануфры Рамановіч: Удасца, бо ў нас ёсць Барадач

**Былы маёр КДБ** адказаў на пытанні «НН» адносна стварэнне ўрада ў выгнанні.

**«Наша Ніва»: Калі ўвогуле з'явілася ідэя стварэння такой структуры?**

**Ануфры Рамановіч:** Ні я, ні Барадач не прэтэндуем на аўтарства. Гэта ўзнікла праз сітуацыю ў краіне. Ні я, ні Барадач, ні мільёны беларусаў не хочуць, каб намі кіраваў нелегітымны лідар. Беларусь стала краінай-ізгоем. Летась дэвальвацыя людзей падкасіла. Мы, як вайсковыя людзі, бачылі памылкі палітыкаў. Мы іх не асуджаем, кожны мае права на памылку. Але нам трэба адрадзіць Канстытуцыю Беларусі.

**«НН»: Вы кажаце «вайсковыя людзі», і хто гэтыя людзі, апроч вас з Барадачом?**

**АР:** Мы — гэта не толькі вайскоўцы, спецслужбісты, памежнікі, але і палітыкі. На жаль, не ўсе лідары апазіцыйных партый, былыя кандыдаты ў прэзідэнты зразумелі да канца, у чым сэнс гэтага аргкамітэта. Але мы да ўсіх дойдзем, мы людзі адкрытыя.

**«НН»: Заява літоўскага міністра Ажубаліса мае дачыненне да вашай ініцыятывы?**

**АР:** У гісторыі здараецца так, што да некалькіх, чалавек адначасова прыходзіць прасвятленне. Напрыклад, я толькі ведаў, што ёсць такі Вік, але не меў да яго ніякага дачынення. Калі некаторыя палітыкі пачулі пра нашу ініцыятыву, то захацелі сутыкнуць нас ілбамі з Радай БНР. А мы проста хочам аб'яднаць усіх у адну структуру.

**«НН»: Урады еўрапейскіх краін вас падтрымалі?**

**АР:** Мы звярталіся да ўрада Польшчы, кантактуем з палітыкамі, дэпутатамі краін, дзе знаходзімся. У Чэхіі, Польшчы, Літве, Украіне, Расіі мы змаглі правесці сходы.

**«НН»: Касцяк будзе за мяжой?**

**АР:** Нельга так казаць. Мы нават не просім ні ў каго даць нам офіс за мяжой. Проста калі мы скажам, што нехта ўваходзіць у склад гэтага ценевага кабінета, то ён будзе пад каўпаком. За ім будуць хадзіць, слухаць яго.

**«НН»: Якім чынам вы збіраецеся ўплываць на сітуацыю, калі нават не называеце сваіх імёнаў?**

**АР:** Як кажуць: «Дайце толькі срок. Будзе вам свісток». Не ўсё адразу. Мы не хочам, каб гэта быў лівійскі ці румынскі сцэнар. Мы будзем рабіць усё ў рамках Канстытуцыі. Я не магу ўсё гаварыць. Гэта звязана нават і з тымі маршрутамі, якімі мы будзем ездзіць. Прабачце, я трохі эмацыйны, ад Барадача навучыўся.

**«НН»: Вы гаворыце пра аб'яднанне апазіцыі, але называеце многіх яе лідараў агентамі. Дык ці дапамагае гэта аб'яднанню?**

**АР:** Мы дамовіліся на мараторый на такія рэзкія заявы ў далейшым. Трэба разумець, што на рэгіёнах апазіцыянеры супрацоўнічаюць лепш, чым іх лідары. Пасля агалоскі нашых планаў мы таксама зразумелі, хто ёсць хто.

**«НН»: Журналіст Сяргей Навумчык напісаў, што перад тым, як стварыць урад у выгнанні, вам варта было б здаць «паролі, яўкі», сказаць чым вы займаліся ў органах.**

**АР:** Ніколі гэтага не хаваў. Займаўся контрразведвальнай дзейнасцю. Як гаварылася некалі, «супраць спецслужб галоўнага праціўніка». Не важна, дзе чалавек быў пры СССР. Важна, што ён цяпер робіць для Беларусі. Нам не трэба шукаць ворагаў, іх шукае Лукашэнка.

**«НН»: Як людзі вайсковыя, колькі вы часу даяце на рэалізацыю свайго плана?**

**АР:** Нядаўна Пазняк сказаў, што вырашальны момант для Беларусі можа быць у любы час. Мы павінны быць гатовыя, што гэта можа настаць у кожную хвіліну. У нас няма часу на раскачку. Калі б я сказаў, што заўтра ці паслязаўтра, мае б словы паднялі на смех.

**«НН»: Гэта не першая спроба стварэння ценевага ўрада. Чаму лічыце, што ўдасца ў вас?**

**АР:** Бо ў нас ёсць Барадач. Ёсць іншыя такія ж людзі, якія гатовыя на ўсё, каб атрымалася. Калісьці ж павінна атрымацца! У нас ёсць упэўненасць, падтрымка. Да нас званяць людзі. Мы умеем чытаць, аналізаваць памылкі.

**Гутарыў ЗП**

**Сігнал да атакі — тры зялёныя свісткі**

Ірына Халіп пра ўрад у выгнанні: «Барадач, размаўляючы выключна з люстэркам, стварае з самім сабой урад у выгнанні, прычым тлумачыць свайму адлюстраванню ў люстэрку крайнюю важнасць уласных дзеянняў і іх несумненную эфектыўнасць з такім багаццем стылю і логікі, што выклікае ў памяці хрэстаматыйнае вайсковае «сігнал да атакі — тры зялёныя свісткі».



**Ануфры Рамановіч**

нарадзіўся ў 1943 пад Гроднам. Падчас тэрміновай службы ў войску яго «знайшоў КДБ», дзе ён і адпрацаваў аж да развалу СССР. У 1991 звольніўся па ўласным жаданні. З 1992 заняўся бізнэсам. З 1996 дапамагаў беларускай апазіцыі — і фінансава, і арганізацыйна. Працаваў у штабах Сямёна Домаша (2001) і Аляксандра Мілінкевіча (2006). Пасля выбараў 2006 эміграваў у Польшчу, дзе знаходзіцца да сёння. Спроба афіцыйнага Мінска дамагчыся экстрадыцыі Ануфрыя Рамановіча поспеху не мела. Разам з тым, Рамановіч не атрымаў і афіцыйнага статуса ўцекача ў Польшчы.

## Дзмітрый Лукашэнка за рулём БелАЗа




Сярэдні сын кіраўніка Беларусі знаходзіўся з візітам **у Кемераўскай вобласці Расіі**.

Дэлегацыя з Беларусі прыязджала ў Кузбас абмяркоўваць перспектывы супрацоўніцтва ў сферы цяжкага машынабудавання. Уваходзіў у дэлегацыю кіраўнік прэзідэнцкага спартыўна клуба Дзмітрый Лукашэнка і бізнэсмэн Юры Чыж.

«Тыдзень таму я быў у Белавежскай пушчы, бачыў зуброў. Дык у мяне адчуванне, што я праехаўся на зубры», — сказаў Чыж пра паездку на БелАЗе.

«Пачуваюся як бы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь тут, на кузбаскай зямлі. Вядома, нічога не скажаш, такія маштабы! Я думаю, што пастаўкі БелАЗаў у гэты край будуць як мага большымі. Мяркую, што гэта прынясе карысць не толькі кузбаскай зямлі, але і Беларусі, адназначна», — адзначыў у відэаінтэрв'ю Дзмітрый Лукашэнка. У Беларусі з журналістамі ён размаўляе не часта.

**ЗП**

**Фотафакт**



**«Адважная ахова Пуціна»**

Руку хлопчыка, што працягвае руку прэзідэнту Расіі, страхуюць трое ахоўнікаў.

Архіўнае фота набыло новае дыханне і жыва абмяркоўваецца ў Фэйсбуку. Людзі жартуюць, што хлопчыка ззаду трымаюць мінімум восем чалавек, у прыватнасці, некалькі ахоўнікаў трымаюць ногі.

# Набор у беларускамоўныя класы — цяпер таксама Гомель, Брэст

У горадзе над Сожам ужо сабраўся невялікі клас, у горадзе над Бугам набор **пачнецца ў чэрвені**.

У гомельскай гімназіі №36 імя І. Мележа працягваецца набор у першыя класы, у тым ліку з беларускай мовай навучання. Як паведамілі «НН», прыём дакументаў працягнецца да 15 чэрвеня.

У гомельскай гімназіі №36 дзейнічае тры музеі, шэраг гурткоў — фальклорныя, тэатральныя, этнаграфічныя, спартыўныя. Пры гімназіі традыцыйна ладзяцца «Мележаўскія чытанні».

**Кантакты:** Гомель, гімназія № 36 імя І. Мележа (бр. Лізюковых, 16). Т.: (0232) 48-10-27, 48-13-73.

У брэсцкай пачатковай школе №34 летась у першы клас з беларускай мовай навучання пайшлі вучыцца 5 дзяцей. Сёлета набор яшчэ не пачаўся. «Заявы будуць прымацца з 2 чэрвеня па 28 жніўня», — паведамілі ў школе.

**Кантакты:** Брэст, пачатковая школа №34 (Маскоўская, 386/1). Т.: (0162) 42-02-72.

* * *

Калі вы хочаце аддаць дзіця ва ўжо існую беларускамоўную школу, улічыце, што часам у школе набіраюць у класы з рознымі замежнымі мовамі (напрыклад, у гімназіі №23 Мінска традыцыйна «А» клас — з англійскай, а «Б» — з кітайскай). Каб выбраць дзіцяці тое, што вы лічыце патрэбным, звяртайцеся ў школу як найраней, каб падаць заяву ў першы ж дзень прыёму дакументаў, інакш усе месцы могуць аказацца занятыя.

Калі вы хочаце стварыць беларускамоўны клас у найбліжэйшай школе, прыйдзецца згуртаваць аднадумцаў. У гэтай справе ўсё залежыць ад вас. Аддзелы адукацыі і адміністрацыі школаў паспрыяюць, калі вы будзеце не адны. Шукайце таварышаў і супольцеся.



«Брестская газета»

### Мінск. Беларускамоўныя школы і гімназіі

**Гімназія №4** (Кунцаўшчына, 18): навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах.
E-mail: gymn4@minsk.edu.by; т.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

**Гімназія №23** (пр. Незалежнасці, 45): выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай, польскай моваў.
E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

**Гімназія №9** (Сядых, 10): паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла.
Т.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

**Гімназія №28** (Ракасоўскага, 93): паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.
E-mail: sch2@minsk.edu.by.; т.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

**Гімназія №14** (Васняцова, 10): паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асновах эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў.
Т.: (017) 295-01-33, 295-21-31.

**СШ №190** (Нікіфарава, 19): выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.
Т.: (017) 260-24-90; e-mail: sch190@minsk.edu.by.

**СШ №60** (Лібкнехта, 82) — навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.
Т: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**СШ № 68** (зав. Ахоцкі, 17): набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.
E-mail: sch68@minsk.edu.by; т. (017) 243-76-82.

### Мінск. Белмоўныя класы ў расійскамоўных школах

**СШ №11** (Асаналіева, 14) — школа з агульнаэстэтычным ухілам.
Т.: (017) 277-45-34, 275-59-10.

**СШ №72** (Халмагорская, 59) — сёлета будзе набірацца адзін беларускамоўны першы клас. Дадаткова — вывучэнне англійскай мовы, мастацкі ўхіл.
Т.: (017) 246-53-71, 246-52-42.

**СШ №108** (Уральская, 15) — спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.
E-mail: sch108@minsk.edu.by; т.: (017) 245-20-41.

**СШ №131** (Убарэвіча, 74) — вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.
Т.: (017) 340-62-38, 345-14-12.

**СШ №180** (Радужная, д.8, корп.3) — паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.
Т.: (017) 250-10-49.

**СШ №209** (Рафіева, 91) — вывучэнне французскай мовы, вакальныя студыі, спартыўныя секцыі.
Т. (017) 274-69-71, 256-48-77.

**СШ №110** (Брэсцкая, 66) — дзейнічае праграма «Здароўе».
Т. (017) 278-58-81, 278-11-12.

### Брэст

Пачатковая школа №34 (Маскоўская, 386/1)
Т.: (0162) 42-02-72.

### Гомель

Гімназія № 36 імя І. Мележа (Бр. Лізюковых, 16)
Т.: (0232) 48-10-25, 48-13-73.

### Гродна

СШ №32 (Ліможа, 11)
Т.: (0152) 48-50-48, 43-64-03.

### Магілёў

СШ №1 (Першамайская, 24)
Т.: (0222) 22-12-64, 31-07-85.

### Баранавічы

СШ №14 (Піянерская, 98)
Т.: (0163) 42-51-50.

### Дзіцячыя дашкольныя ўстановы Мінска, дзе ёсць беларускамоўныя групы:

**Заводскі раён**
ДДУ №202 (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 245-12-92.

**Кастрычніцкі раён**
ДДУ №97 (Ландэра, 18). Т.: (017) 277-89-11, 277–49–20; ddu97@minsk.edu.by.

**Ленінскі раён**
ДДУ №101 (Якубава, 60). Т.: (017) 238-88-61.

**Маскоўскі раён**
ДДУ №143 (Караля, 3б). Т.: (017) 200-96-20.
ДДУ №412 (пр. Газеты Праўда, 64а). Т.: (017) 271-68-47.
ДДУ №473 (Ясеніна, 6/4). Т.: (017) 271-94-06.
ДДУ №541 (Ясеніна, 137). Т.: (017) 205-37-24.

**Партызанскі раён**
ДДУ №543 (Бумажкова, 39). Т.: (017) 235-36-02.

**Першамайскі раён**
ДДУ №220 (Каліноўскага, 11а). Т.: (017) 265-23-02.
ДДУ №273 (Каліноўскага, 89. Т.: (017) 263-06-84.
ДДУ №522 (Русіянава, 23). Т.: (017) 260-65-01.
ДДУ №66 (пр. Незалежнасці, 102а). Т.: (017) 264-60-52.
ДДУ№361 (Цікоцкага, 44). Т.: (017) 263-38-28.

**Савецкі раён**
ДДУ №314 (Багдановіча, 68а). Т.: (017) 234-25-61.

**Фрунзенскі раён**
ДДУ №561 (Сухараўская, 9). Т.: (017) 259-09-90.
ДДУ №534 (Матусевіча, 59). Т.: (017) 257-76-91.
ДДУ №570 (Чайлыткі, 8). Т.: (017) 215-60-44

**Цэнтральны раён**
ДДУ № 187 (Кахоўская,64а). Т.: (017) 213-06-71 — 6 груп, афіцыйна цалкам беларускі.
ДДУ № 218 (б-р Шаўчэнкі, 13). Т.: (017) 288-09-33.
ДДУ № 234 (Карастаянавай, 19). Т.: (017) 288-50-75.
ДДУ № 503 (Радужная, 4, корп.2). Т.: (017) 234-36-05.

* * *

Дасылайце ў Рэдакцыю інфармацыю пра беларускамоўнае навучанне ў вашай вобласці і раёне. Пішыце пра новыя ініцыятывы бацькоў і ўпраўленняў адукацыі.

**Сямён Печанко**

# Топ-5 самых дарагіх кватэраў і катэджаў Мінска

Сярэдняя цана квадратнага метра ў Мінску складае каля $1300. Такія падлікі прыводзіць сайт realt.by, аналізуючы прапановы на рынку. Аднак рэальныя ўгоды ажыццяўляюцца па меншым цэнніку, каля $1200. Столькі ж каштуюць і новабудоўлі. Атрымліваецца, што за трохпакаёвую кватэру мінчукі вымушаныя плаціць амаль $100 тысяч.

Аднак гэта нішто ў параўнанні з коштам самых прэстыжных аб'ектаў, у якіх жывуць самыя прывілеяваныя беларусы нашага часу.

«Наша Ніва» прапануе топ-5 самых дарагіх кватэр і катэджаў у Мінску. Самая ніжняя планка ў рэйтынгу — $1 мільён. Каб зарабіць столькі беларусу з сярэднім дастаткам, трэба адкладаць грошы на працягу 215 гадоў, пры гэтым не выдаткоўваючы ні на што іншае ні рубля. Столькі не жывуць.

**Ягор Марціновіч**



## 1. Пентхауз на Кісялёва. Цана — $3,5 мільёна

Агульная плошча двухузроўневых апартаментаў у набудзе па вуліцы Кісялёва, 17 дасягае 990 квадратных метраў! Мяркуецца, што дом будзе здадзены ў эксплуатацыю да канца года. Гараж на пяць машын плошчай 193 метры, тры каміны, панарамная альтанка на даху будынка, дадатковыя два месцы на падземнай стаянцы — за ўсё гэта забудоўшчык просіць $3,5 мільёна. «Торг недарэчны», — удакладняецца ў прапанове.

За такія шалёныя грошы пакупнік атрымае дзесяціпакаёвую кватэру без аддзелкі, толькі голыя сцены. У прыбудове да дома размесціцца спартыўна-аздараўляльны комплекс з басейнам і саўнай. З вокнаў адкрываецца від на парк, Міністэрства абароны і Оперны тэатр у далечыні. «Ідэальнае месца для рэзідэнцыі заможнага чалавека», — падкрэсліваецца ў рэкламе самай дарагой кватэры Беларусі.



## 2. Катэдж у Драздах. Цана — $1 980 тысяч

Цалкам гатовы катэдж на вуліцы Крупецкай цягне амаль на $2 мільёны. За гэты кошт гаспадар атрымае мэбляваныя чатыры пакоі, кухню-гасцёўню, гардэроб і нават кіназалу. Агульная плошча дома — 284 квадратныя метры. У якасці дадатку — гараж да дзве машыны з ацяпленнем. Падлогі з натуральнага каменя, дубовы паркет, басейн з падагрэвам на дварэ — усё па апошняй модзе. У камплекце ідзе і ўчастак — 12 сотак.

Але галоўнае — «прыемнае» статуснае суседства. Гэты раён называецца «месцам для выбраных». На суседняй вуліцы можа жыць прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, а ў наступным доме і старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына. Катэджаў у Драздах прадаецца пару дзясяткаў. Праўда, у большасці з іх рыэлтары не называюць кошт, маўляў, спачатку пакажыце сябе, пасля пакажам вам дом. Стартавая цана такіх катэджаў плошчай да 500 квадратных метраў дасягае $3-4 мільёнаў.



## 3. Суседзі Нацыянальнай бібліятэкі. Цана — $1,9 мільёна

500-метровы катэдж на вуліцы Цяплічная каштуе $1,9 мільёна. У такі кошт рыэлтары ацанілі чатырохузроўневы будынак з сучасным рамонтам. Праўда, мэблі ў ім няшмат — дызайнеры кіраваліся прынцыпам мінімалізму. Затое хапае сучаснай тэхнікі. Для пачатку катэдж можна ўзяць у арэнду — за $5 тысяч штомесяц.

А вось участак тут меншы, чым у папярэднім доме, — 7,5 соткі.

Раён Нацыянальнай бібліятэкі лічыцца другім па прэстыжнасці пасля Драздоў. Тут актыўна будуе дамы кампанія «Тапас», у якой працуе галоўны бамбардзір лукашэнкаўскай хакейнай каманды Павел Белы.



## 4. Пяціпакаёўка на Чэхава. Цана — $1 170 тысяч

Пяціпакаёвая кватэра агульнай плошчай 231 квадратны метр знаходзіцца ў квартале між прэзідэнцкай трасай і новым праспектам Машэрава. «Элітнае месца ў элітным доме з элітнымі суседзямі», — кажуць рыэлтары. Яшчэ б — праз дарогу меў кватэру сам пракурор Снягір. Праўда, неўзабаве ягонае жыллё канфіскавалі. Затое іншыя мажорныя суседзі засталіся.

Кватэра прадаецца з мэбляй, уключна з трэнажорнай залай. Але дом не новы, яму ўжо 10 гадоў.




## 5. Сталінка за мільён. Цана — $950 тысяч

Гэтая кватэра ўключаная ў спіс «авансам». У сталіцы можна знайсці і іншыя катэджы па $1,5 мільёна, але сталінка плошчай 142 квадратныя метры нашмат больш паказальная. Такія кватэры і ў савецкі час простым людзям не даставаліся. Але хто б мог падумаць у тыя часы, што за кватэру, хай сабе і на цэнтральным праспекце, можна будзе атрымаць амаль мільён? Столькі просяць гаспадары за прасторную двухпакаёўку ў доме, пабудаваным у 1958 годзе на праспекце Незалежнасці насупраць кінатэатра «Цэнтральны» і гатэля «Мінск». Сярод пераваг кватэры — еўрарамонт, два балконы і два санвузлы.

# Дом за $100 тысяч не знайшоўся

**Цэны на дамы** пад Мінскам працягваюць расці.

Павел — расійскі вайсковец у адстаўцы. Пару гадоў таму ён выйшаў на пенсію і атрымаў кватэру ў прывабным Краснадарскім краі — за 50 км ад Чорнага мора. Апошнюю вырашыў прадаць, каб перабрацца ў Беларусь, дзе ў адным з раённых цэнтраў у яго жывуць бацькі.

У сям'і Паўла — двое дзяцей. Вырашылі набыць дом у беларускай сталіцы. Жонка даўно марыла пра свой агарод, дзе можна было б вырошчваць кветкі. Ды і наездзіліся за жыццё па гарнізонах, дзе туліліся ў невялікіх кватэрах. Пад старасць захацелася прасторнага жытла. Мяркуюць, што і дарослыя дзеці будуць жыць з імі.

Ад прададзенай у Расіі кватэры грошай хапала на добрую трохпакаёўку ў Мінску. Але пакольк спыніліся на доме, то і пачалі вывучаць прапанову ў прыватным сектары. Вось толькі за паўгода так і не змаглі нічога падабраць! На іх $100 тысяч дом не выходзіў: альбо прапаноўвалі недабудаваны, альбо па значна вышэйшых цэнах. У выніку Павел спыніўся на закансерваваным катэджы ў Заслаўі, што за 20 км ад цэнтра Мінска. Будынак без унутранай аддзелкі, але з падвядзеным ацяпленнем і каналізацыяй.

Гаспадар катэджа адразу запрасіў $109 тысяч. Сышліся ж на $87 тысячах. Атрымаў Павел трохпавярховы катэдж у 350 квадратных метраў.

**КМ**

## Сціісла

### Злачынны продаж

Продаж кантрольнага пакета акцый «Беларуськалія» быў бы злачынствам супраць народа, заявіў першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка. Зрэшты, купцоў, гатовых заплаціць $30—32 мільярды за кампанію, усё адно няма. Перамовы з Індыяй у справе продажу долі ў прадпрыемстве больш не праводзяцца.

### Малако пабегла, як і хлеб

Адпускныя цэны на хлеб і малочную прадукцыю вырастуць яшчэ на 10%, а на мяса — на 35%. Міністэрства эканомікі вырашыла расцягнуць падаражанне на два месяцы.

### «Алеся» ў Германіі

Трыкатажная фабрыка «Алеся» будзе шыць форму для нямецкіх паліцыянтаў. Першая пробная партыя складзе 800—900 вырабаў, а агульны аб'ём партыі складзе 35 тысяч прадметаў адзення.

### Еўра на мінімуме

На фоне палітычных праблем у Грэцыі еўрапейская валюта апусцілася да пяцімесячнага мінімуму ў дачыненні даляра — $1,27. Небяспека таго, што краіна пакіне еўразону, узрастае. Манетныя двары Еўропы ўжо гатовыя да выпуску драхмаў — нацыянальнай валюты Грэцыі. Пакуль ніхто не здольны прадказаць, як гэта адаб'ецца на еўравалюце ў сярэднетэрміновай перспектыве.

**ЯМ**

# Хлопца збілі за бел-чырвона-белы сцяг

**Андрэй Моўчан** выйшаў у салідарнасць з Каваленкам.

Андрэя Моўчана затрымалі ўвечары 19 мая ў сталічным раёне Уручча. Актывіст «Еўрапейскай Беларусі» выйшаў на вуліцу з бел-чырвона-белым сцягам у знак салідарнасці з палітвязнем Сяргеем Каваленкам. Хлопец рухаўся з узнятым сцягам ад універсама «Першамайскі» да вуліцы Русіянава. Ніякіх лозунгаў не выкрыкваў.

Ён адмовіўся сядаць у міліцэйскую машыну, патрабуючы тлумачэння прычыны затрымання. Калі актывіста сілай запіхвалі ў аўто, яго моцна патаўклі. Пра гэта ён расказаў сястры, якую пусцілі да яго ў бальніцу. Андрэй Моўчан цяпер знаходзіцца ў аддзяленні траўматалогіі бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі.

У пастарунку Андрэю пагражалі крымінальнай справай нібыта за абразу прэзідэнта і збіццё супрацоўніка міліцыі. Каардынатар «Еўрапейскай Беларусі» Павел Юхневіч лічыць, што ніякая крымінальная справа ў адносінах да Андрэя не будзе распачата. «Міліцыянты надта брутальна затрымалі актывіста, і цяпер ім, напэўна, давядзецца даваць тлумачэнні, таму яны паспрабуюць «забыцца» пра інцыдэнт», — кажа Юхневіч.

Павел падкрэсліў, што праводзілася экспертыза, якая пацвердзіла, што Моўчан на момант затрымання быў цвярозым.

Прэс-сакратар ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі заявіў, што не мае «ніякай інфармацыі» па справе і пракаментаваць нічога не можа.

**Сяргей Макарэвіч**



Андрэй Моўчан.

УЛАДЗЬ ГРЫДЗІН

**«Стаяць, с..кі, будзем страляць!»**

18 мая Віцебскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу Сяргея Каваленкі. Сам актывіст КХП-БНФ у судзе адсутнічаў. Суддзя падтрымаў пракурора, які палічыў, што палітвязень нічога новага не скажа.

У дзень разгляду касацыйнай скаргі каля будынка суда была затрымана жонка Каваленкі Алена, яго брат Канстанцін і актывістка «Еўрапейскай Беларусі» Алена Семенчукова. Іх затрымалі, калі жонка палітвязня на асфальце пісала «Свабоду Сяргею Каваленку!». Па яе словах, да іх пад'ехалі машыны. З крыкамі «Стаяць, с..кі, будзем страляць!» з іх павыскоквалі міліцыянты. Пасля сямігадзіннага затрымання ўсіх выпусцілі. Судовы разгляд перанесены на 30 мая.




## 15 сутак за плакат «Мусорок»

Суддзя не прыняў расшыфроўку надпісу як ангельскае **My Cop Ok** — пахвала міліцыі.

Івана Амельчанку асудзілі 16 мая. Суддзя Міхаіл Хома прызнаў маладога чалавека вінаватым у дробным хуліганстве. Падставай стаў яго ўдзел у «Чарнобыльскім шляху». Тады ён з саматробным плакатам «Мусорок» стаў побач з адным са службістаў у цывільным, якія навязліва здымалі на камеры ўдзельнікаў мірнага, санкцыянаванага шэсця.

Працяглы час Івана не маглі знайсці. Каб міліцыянты перасталі дакучаць яго бацькам і знаёмым, Амельчанка разам з адвакатам сам з'явіўся ў апорны пункт. Адтуль яго накіравалі ў Ленінскі РУУС. Але адваката разам з Іванам не пусцілі. На ноч маладога чалавека змясцілі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна. А затым асудзілі.

Мінчуку Івану Амельчанку — 25 гадоў. Ён вучыўся на будаўнічым факультэце БНТУ. ВНУ, праўда, не скончыў. Сёлета думаў аднавіцца. Але працаваў па спецыяльнасці — у будаўнічай галіне. Па словах яго сябра Алеся, Іван заўсёды быў грамадска актыўным чалавекам.

Актывіст грамадскай кампаніі «Гавары праўду» Павел Вінаградаў адзначыў, што Іван вылучаецца «крэатыўным мысленнем». Па яго словах, адна з акцый моладзевага крыла ГП «Zмена» была праведзена па ідэі Амельчанкі. Але ні да якіх палітычных партый ён не належыць.

**Кастусь Матушыч**

### Сцісла

**Бяляцкага ўзнагародзілі**

Палітвязень Алесь Бяляцкі атрымаў прэмію абаронцы правоў чалавека, якую штогод уручае Дзярждэпартамент ЗША. Сёлетнюю ўзнагароду Бяляцкі падзяліў з угандыйскай Кааліцыяй грамадзянскай супольнасці ў пытанні правоў чалавека і канстытуцыйнага законнасці.

**Мускага забралі ў войска**

16 мая маладафронтаўца Міхася Мускага пад канвоем даставілі з ізалятара на Акрэсціна, дзе ён адбываў адміністрацыйны арышт, у зенітна-ракетную часць пад Лепелем. Раней Мускі, выключаны з універсітэта, пісаў заяву на альтэрнатыўную службу.

**КМ**

### Каментар

## Рэжым — гэта хто?

Толькі дурні або правакатары могуць дэманізаваць міліцыю ці Купалаўскі тэатр. Піша **Сяргей Богдан**.

На мінулым тыдні некаторыя апаненты беларускага рэжыму заклікалі пікетаваць спектакль Купалаўскага ў Лондане. Насамрэч гэты тэатр не мае нічога супольнага з палітычнымі рэпрэсіямі і фактычна ўяўляе сабой частку беларускай культуры, якую так не любяць многія прыхільнікі цяперашняй улады. Ці варта, нягледзячы на гэта, лічыць яго часткай беларускага рэжыму?

Скажам так, ці падтрымліваюць рэжым Лукашэнкі замежныя інвестары, якія рэалізуюць праекты ў Беларусі? Або простыя беларусы, якія плацяць падаткі?

Беларускі рэжым — гэта не таталітарызм, ён не грунтуецца на жорсткай ідэалогіі. Чыноўнікі — гэта проста чыноўнікі, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго. Нават радыкальны Саннікаў прызнаваў, што «ніжэй за міністэрскі ўзровень працуюць вельмі кваліфікаваныя і прафесійныя людзі».

Міністр культуры Павел Латушка гаворыць па-беларуску ў грамадскіх месцах — гэта ўжо адхіленне ад бюракратычнага стандарту. Заняўшы пасаду, ён пачаў палітыку падтрымкі беларускай культуры, чым рэжым пагарджаў, пачынаючы з 1994. Адной з яго ініцыятываў была вялікая праграма дзяржаўнага фінансавання пад назвай «Беларускія замкі».

Публічныя дэбаты па эканамічных пытаннях восенню паказалі, што многія міністры падзяляюць рацыянальныя погляды і што на самым версе ўлады меркаванні разыходзяцца. Акрамя таго, прэм'ер-міністр Мясніковіч падаецца больш незалежнай фігурай, чым папярэднія прэм'ер-міністры.

Ясна адно: розныя людзі з рознымі поглядамі ёсць нават у найбліжэйшым атачэнні Лукашэнкі. Беларуская ўлада — не маналітнае ўтварэнне. Насамрэч яна нават больш разнародная, чым улада Савецкага Саюза ў апошнія гады яго існавання.

Апанентам рэжыму варта ўстрымлівацца ад анархісцкай антыдзяржаўнай прапаганды. Нават беларуская міліцыя ловіць не толькі актывістаў апазіцыі, але і злачынцаў. І няма ніякіх прычын яе дэманізаваць. Без міліцыі і турмаў ніякая дзяржава не абыдзецца.

Многія органы беларускай улады нават сёння рэагуюць на арганізаваныя пратэсты і петыцыі. Вядома, яны караюць за грамадскую актыўнасць, але і мусяць на яе рэагаваць. Адзін з апошніх прыкладаў — сітуацыя ў Смалявічах.

Беларусь як дзейная дзяржава мае патрэбу ва ўрадзе, і гэты ўрад варта адрозніваць ад рэпрэсіўных органаў, створаных толькі для падтрымкі дыктатуры. Вырашаючы, ці ўяўляюць сабой чыесьці паводзіны службу або супрацоўніцтва з рэжымам, апанентам беларускай улады варта факусавацца на выніках дзеянняў, а не толькі на тым, хто гэтыя дзеянні ажыццяўляе.

# Чырвона-зялёны сцяг разам з «Пагоняй»

**Новыя цішоткі** ад «Адлігі».

Студыя «Адліга» выпусціла цішоткі з чырвона-зялёным сцягам, надпісам «Каралеўства Вялікая Літва» спераду і выявай мяча на спіне.

Аўтар ідэі — Аляксандр Пархоменка з Мінска. Ён індывідуальны прадпрымальнік, гандлюе будматэрыяламі. Гісторыяй цікавіцца «для душы». Ідэю зрабіць такія майкі выношваў два гады.

На думку Аляксандра, беларусам не варта грэбаваць спалучэннем чырвонага ды зялёнага. Калі бел-чырвона-белы — гэта сцяг Хрыста, то чырвоны з зялёным — паганскія колеры, колеры прыроды. Іх можна пабачыць на граматах Вітаўта да тэўтонскага магістра.

Дастаткова зірнуць на людзей, якія ўзялі ў нас «Пагоню», — гэта сучасная Літва. Іх сцяг — чырвона-зялёны з жоўтай палоскай зверху. Цяжка патлумачыць чалавеку, які вырас на бел-чырвона-белых сімвалах, што чырвона-зялёныя — таксама нашы, скардзіцца Аляксандр.

«Ёсць людзі, якія прасілі мяне не прывозіць гэтыя цішоткі. Але, пабачыўшы, потым яны мяне моцна абдымалі».




«Непаважна змагацца з чырвона-зялёнымі колерамі і думаць, што гэта з Усходу. У такіх варунках мы змагаемся самі з сабой, і вораг толькі цешыцца, гледзячы на гэта», — лічыць Пархоменка. Набыць такую цішотку можна ў галерэі «Ў» ці праз інтэрнэт. Кошт — 165 тысяч рублёў.

**Аксана Рудовіч**

# «Гэта як у старыя савецкія часы»

Расія вяртае сабе **тытул чэмпіёна** свету па хакеі.

Настальгію па савецкіх часах выказаў сайт Міжнароднай федэрацыі хакея. Такі загаловак яны далі пасля нядзельнага фінала ў Хельсінкі Расія — Славакія.

Славакі і так скокнулі вышэй галавы. На іх выхад у фінал не разлічваў ніхто, але славакі перамагалі па чарзе ЗША, Канаду, Чэхію. На Расію ўжо не хапіла сілаў — 2:6.

Расія ж увогуле не саступіла на гэтым першынстве ніводнага (!) разу. Апошні такі выпадак з нашымі ўсходнімі суседзямі быў зафіксаваны ў 1989, калі зборная СССР разбіла ўсіх у Швецыі.



Бяззубыя, але шчаслівыя.

Тады былі свае куміры — Крутаў, Ларыёнаў, Фяцісаў, Фёдараў, Магільны. Фактычна, апошні год перад тым, як усе яны з'ехалі за акіян у НХЛ. Сённяшнія куміры расіян (Авечкін, Малкін, Сёмін) прылятаюць у зборную ўжо з Амерыкі і Канады.

Гэта дваццаць шосты тытул расіян і чацвёрты ў постсавецкі час. Відаць, што сённяшняму пакаленню расійскіх зорак няма канкурэнтаў у Еўропе. Хіба што Канада, сабраўшы ўсіх мацнейшых, магла б пазмагацца. Але ў іхніх профі свой прыярытэт — Кубак Стэнлі.

Наступнае першынства зноў прымуць Швецыя і Фінляндыя. Толькі фінал замест Хельсінкі прыме Стакгольм.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**




**Парад Паўлінак**

У рамках «Ночы музееў» Дзяржаўны музей Янкі Купалы правёў парад Паўлінак, які прымеркавалі да 100-годдзя напісання аднайменнай п'есы.

# Памерла Дона Самэр — «каралева дыска»

Папулярнай **амерыканскай спявачцы** было 63 гады.

Блізкія Самэр расказалі журналістам, што ў яе быў рак, але яна спрабавала захаваць хваробу ў таямніцы. Галоўнай яе мэтай было скончыць новы альбом.

Слава да Доны Самэр прыйшла ў 1970-я гады. Дагэтуль ёй належыць рэкорд па колькасці выпушчаных запар падвойных альбомаў, якія займалі першы радок у музычных чартах.

Самэр стала першай у музычнай гісторыі спявачкай, чые сінглы за год 4 разы прабіваліся на вяршыню хіт-парада Billboard Hot 100, шэсць разоў яе ўзнагароджвалі прэміяй «Грэмі». У 1992 годзе на Галівудскай алеі славы ўсталявалі зорку яе імя.

**Сямён Цыбульскі**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Прывітанне ад Булата

У няспынным ланцужку паведамленняў аб тым, як маскоўская паліцыя ганяе з месца на месца антыпуцінскіх пратэстоўцаў, нейкай невыразнай тапаграфічнай дробяззю прамільгнула: «на Арбаце... ля помніка Акуджаву...»

Не ведаю, ці адзначаюцца нейкім чынам юбілеі помнікаў. Між тым, помніку Булату Акуджаву на Арбаце роўна 10 гадоў і два тыдні. Самому паэту — 88 і два тыдні, калі лічыць ад 9 мая, дня нараджэння. Праз два гады, калі будзе 90, магчыма, нехта ўспомніць, напіша: «...спо́лнілася б...»

А магчыма, і не ўспомніць, і не напіша.

...1961 год, студзень, вестыбюль галоўнага корпуса МДУ, каля двух дзясяткаў студэнтаў на мармуровай падлозе, штармоўкі, заплечнікі, лыжы, гітара... Побач нейкі чалавек камендантскага выгляду — цёмна-зялёны фрэнч, сінія з чырвоным канцікам галіфэ, абуты ў цёплыя, белыя з рудым, буркі. Спыніўся, заклаўшы рукі за спіну, гаворыць, узвышаючы голас, нешта непрыемнае, потым зрываецца: «Разысціся, я сказаў! Бач ты, расселіся тут, спяваюць...»

Ніхто не зварухнуўся. «Фрэнч» чакаў, заклаўшы рукі за спіну ды вагаючыся з наскоў на пяткі... І тут грымнула пад гітару акуджаваўскае: «...кричат дуракам: «дураки, дураки!»... А им это очень обидно...»

...Праз 10 з нечым гадоў Акуджава завітаў у «Знамёнку». Разам з Горыным, адсунуўшы на час літаратурныя справы і сустрэчы з мінскімі сябрамі.

У невялічкі пакой народу набілася ці не з усяго тагачаснага Дома друку. Людзі таўкліся і ў калідоры, хаця, канечне, тыя, хто запрасіў куміраў, намагаліся трымаць сустрэчу ў таямніцы. Я не памятаю, аб чым канкрэтным была размова. Памятаю толькі, што гаворку Акуджавы вызначала абсалютная адсутнасць намёкаў ды іншасказанняў. Што, дарэчы, стварала некаторыя нязручнасці асабліва пільным персанажам, ад чаго па іх тварах блукалі крывыя ўсмешкі ды нейкае намёнцкае паразуменне — Юпітэру, маўляў, дазволена...

А потым прагучаў нейкі стогнучы гук і аднекуль з калідора, над галовамі, чапляючыся струнамі за чыесьці пальцы, паплыла гітара... «Мы ж мужчыны... Мы ж дамовіліся», — без воклічу, але з націскам вымавіў Акуджава, звяртаючыся да аднаго з арганізатараў сустрэчы. Ён не любіў, калі яго ўспрымалі толькі як барда...

## Ён не любіў, калі яго ўспрымалі толькі як барда

Стала вусцішна няёмка. Нават сорамна.

Са мной, падобна, так відавочна гэта было ўпершыню — сорам за тое, у чым ты сам зусім не вінаваты.

Гэта потым я зразумеў асаблівасць з'явы з імем Акуджавы, калі да ўсіх уласцівасцяў сапраўднай паэзіі дадаецца яшчэ адна, мабыць, самая важная — сорам за ўсе зняважальныя заганы быцця. І здольнасць выклікаць гэты сорам у кожнага, хто хаця б крыху сваіх душэўных магчымасцяў здольны выдаткаваць на пераадоленне зла. І ў сабе, і звонку...

Ён усё ж спяваў тады. Праз колькі гадзін, у вузкім (сем-восем чалавек) коле. «Я праспяваю песню, якую напісаў нядаўна», — і кранўў струну...

«Когда внезапно возникает еще неясный голос труб... Надежды маленький оркестрик под управлением любви...»

...Яшчэ праз 25 гадоў я апынуўся на сустрэчы з Акуджавам у адной з маскоўскіх рэдакцый. Ізноў было многа народу, Акуджава бесперапынна смаліў. Ён быў зусім мала сівы, у гамонцы тая ж адкрытасць, толькі, мабыць, дабавіўся нейкі стомлены неспакой.

Надышоў час задаваць пытанні. Я папрасіў прабачэння за агідную непрыстойнасць, якую ў 1993 учынілі ў Мінску пасля яго выступу ў філармоніі ягоныя палітычныя, так бы мовіць, ненавіснікі — ламалі і білі кружэлкі... І спытаў, ці памятае ён даўнюю сустрэчу ў беларускай маладзёжнай газеце. Ён сказаў, што выбачацца мне няма за што, а сустрэчу не памятае. «Вы яшчэ спявалі нам «Надежды маленький оркестрик», казалі, што толькі напісалі і спяваеце ўпершыню», — нагадаў я. Не, не памятае... Тады я спытаў, ці не збіраецца ён ізноў прыехаць у Беларусь, у яго там шмат сяброў. «Не, — адказаў ён. — Я зараз вельмі рэдка куды езджу». І з маркотнай усмешкай дадаў: «Вы перадайце прывітанне маім беларускім сябрам...»

Летам таго ж 1997 ён памёр... 15 гадоў... Круглая дата...

І сёння, загладжваючы віну за затрымку, я перадаю тое запозненае прывітанне.

Але каму?..

*kamerton_41@mail.ru*

# Беларускамоўныя банеры футбольных фанатаў

**Новая тэндэнцыя** ў заўзятарскім асяроддзі.



Каментатар Павел Баранаў адпрацаваў на беларускай мове цалкам матч паміж БАТЭ і «Славіяй». На фанацкім сектары барысаўцаў быў прэзентаваны новы белмоўны банер «БАТЭ назаўжды ў нашых сэрцах і да канца нашых дзён».

Тыднем раней Уладзімір Навіцкі так натхніўся беларускамоўным дыктарам на гомельскім стадыёне, што таксама перайшоў падчас трансляцыі на «матчыну мову». Праўда, на ўвесь матч яго не хапіла — толькі на палову другога тайма.

Увогуле, у фанацкім асяроддзі звяртае ўвагу, што ўсё большая колькасць груповак звяртаецца да беларускай мовы: то банер на ёй зробяць, то крычалкі праскандуюць. Прычым, назіраецца гэта ў абсалютна розных камандах.

Здавалася б, большых апанентаў, чым «Дынама» і «Партызан» у беларускім фан-руху цяжка знайсці, але па пытаннях мовы іх пазіцыі падобныя.

Таксама вылучаюцца фаны жодзінскага і мінскага «Тарпеда». Апошнім часам імкнуцца не адставаць БАТЭ і «Гомель». У «Мінска» і «Брэста» ў гэтым плане таксама ўсё нармальна. Прапануем вашай увазе невялікую падборку банераў нашых каманд.

А вось у «Нёмана», «Белшыны», «Славіі» знайсці белмоўную прадукцыю не атрымалася. Магчыма, кепска шукалі. Калі маеце нешта, то падкажыце па гэтых камандах.

**Зміцер Панкавец**




«Багуслаўцы». Так называюць сябе фаны жодзінскага «Тарпеда». У гонар Багуслава Радзівіла, які быў заснавальнікам паселішча, на месцы якога сёння размяшчаецца Жодзіна. Яшчэ ёсць расцяжка «Громкае імя Тарпеда».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Назаўжды ў нашых сэрцах». Гэта фаны «Гомеля». На апошніх гульнях пра свой клуб па-беларуску яны кажуць «Вялікі. Магутны».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Дынама» (Менск). Наймацнейшы рух у краіне. На кожнай сустрэчы вісяць банеры «Сэрца Еўропы» і «Белыя крылы, блакітныя нябёсы».



GOALS.BY

Рэнан Брэсан, які прызнаваўся, што ведае пабеларуску словы «цукеркі» і «часопіс», выказвае падзяку фан-сектару БАТЭ за падтрымку. Таксама ў БАТЭ ў наяўнасці маюцца наступныя расцяжкі: «Нас не спыніць», «Барысаўчане», «Славяне. Жаўнеры Белай Русі».



Некалі легендарнае мінскае «Тарпеда» цяпер гуляе на чэмпіянаце Мінска, але фанаты застаюцца вернымі. Яны ж ушчуваюць кіраўніцтва МАЗа, якое адмовілася ад каманды.




«Разам і да канца». Абяцаюць фаны мінскага «Партызана». Ад гэтага года іх каманда таксама ў чэмпіянаце Мінска. На хатніх матчах з'явіўся беларускамоўны дыктар.




GOALS.BY

Салігорскі «Шахцёр» яшчэ называюць «кратамі». Такі вось самаіранічны банер «Наша краіна — кратавіна».



GOALS.BY

У «Брэста» моцны рух. Яны сябруюць з мінскім «Дынама». Пра беларускую мову хлопцы не забываюцца.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Фанатаў у «Мінска» пакуль нямнога. Але тыя, што ёсць, заклікаюць сваю каманду ісці наперад. Яшчэ вывешвалі банер «Вы лепшыя».

# «Каханне праз Укантакце»

**Дзяўчына Дзіянава** працягне вучобу і кар'еру мадэлі ў Польшчы.

Маргарыта Лавышык, навучэнка адной з прыватных ВНУ Мінска, ніколі асабліва не цікавілася палітыкай. Маючы добрыя знешнія дадзеныя, дзяўчына здымалася для модных часопісаў ды марыла пра звычайнае жаночае шчасце.

Упершыню задумацца пра тое, як жыць далей, прымусіла мінулагодняя дэвальвацыя. Адказы на свае пытанні Маргарыта шукала ў інтэрнэце.

Там яна выпадкова натыкнулася на каментар актывіста «Рэвалюцыі праз сацыяльную сетку» Вячаслава Дзіянава. Што было напісана — ужо не ўзгадае, але словы ўразілі цвёрдасцю і ўпэўненасцю ў будучыні.

Маргарыта вырашыла напісаць «моцнаму» незнаёмцу. Так завязалася перапіска, якая перарасла ва ўзаемнае пачуццё.

Першая сустрэча хлопца і дзяўчыны ў афлайне адбылася праз паўгода пасля віртуальнага знаёмства, у лістападзе 2011 года. З вядомых прычынаў Дзіянаў не мог прыехаць у Беларусь. І Маргарыта адважылася паехаць за мяжу да чалавека, якога ніколі ў жыцці не бачыла, а толькі перапісвалася.

«Я выйшла з аўтобуса і пабачыла Вячаслава. Ён трымаў у руках букет маіх любімых кветак — архідэяў».

Што найбольш цэніць Маргарыта ў сваім хлопцы, дык гэта яго мэтаскіраванасць. «Я веру ў тое, што ён робіць. Слава — моцны і надзейны чалавек, за ім як за каменнай сцяной», — кажа дзяўчына.

**«Падумай, з кім ты звязалася»**

Падтрымліваць адносіны на адлегласці само па сабе ёсць пэўным выпрабаваннем. Аднак «ягадкі» былі наперадзе. 18 красавіка, калі Маргарыта мела чарговы раз паехаць да Дзіянава ў Варшаву, у кватэру, якую яна здымае з сяброўкай, уварваліся пяцёра ў цывільным. Дзяўчат павезлі ў Маскоўскі РУУС. У міліцыі Маргарыту цягам 8 гадзін допытвалі супрацоўнікі КДБ. Ноч яна правяла не ў цягніку Мінск—Варшава, а ў ізалятары на Акрэсціна.

«Так страшна мне яшчэ ніколі не было... І не столькі за сябе, колькі за Крысціну [сяброўку — НН]. Яна ўвогуле ні пры чым! У машыне я прасіла ў яе прабачэння... Не сказаць, каб жыццё пралядела перад вачыма, але сэрца, я думала, спыніцца яшчэ ў дарозе», — кажа Маргарыта.

Дзяўчыне пагражалі словамі «ты адкажаш за ўсе дзеянні Дзіянава», «пасадзім цябе надоўга», «падумай, з кім ты звязалася», «падумай пра сваю будучыню», «у цябе бацькі»... Адно добра, што не збівалі. Прапанавалі распаўсюдзіць нейкі вірус на камп'ютары Дзіянава ці падпісаць дамову пра супрацоўніцтва таксама не было.

**«Планавала адно, а выйшла па-іншаму»**

«Я чула пра падобныя гісторыі, але не асабліва ім верыла. Калі ж гэта адбывацца на яве...Не дай божа каму перажыць. У той момант я была ўпэўненая, што яны нас не пакінуць у жывых», — кажа Лавышык.

Для дзяўчыны, якая раней не мела непрыемных гісторый з праваахоўнымі органамі, такія падзеі — сур'ёзнае выпрабаванне. Планавала адно, а выйшла зусім па-іншаму. Пасля гэтага яе стаўленне да ўладаў змянілася.

«Цяпер мне хочацца «змагацца» і дапамагаць людзям, якія перажылі нешта падобнае. Спецслужбы міжволі падштурхнулі мяне да барацьбы і паказалі ўсе вабноты рэжыму», — кажа дзяўчына.

Вяртацца ў Беларусь яна пакуль не будзе. А вучобу і кар'еру мадэлі працягне ў Польшчы: зараз дасылае свае партфоліа ў польскія мадэльныя і фотаагенцтвы.

**Аксана Рудовіч**



Ніколі не бачыўшы Дзіянава, Маргарыта адважылася паехаць на спатканне ў Польшчу

# 15-гадовая мінчанка скрала ў дагестанцаў дзесяць тысяч даляраў

**Яны выпілі** тры бутэлькі каньяку, і...

Два жыхары Дагестана прыехалі ў беларускую сталіцу купіць аўто. У адзін з дзён пайшлі пагуляць у парк. А там пазнаёміліся з дзяўчынай. Яна ахвотна пайшла на кантакт і неўзабаве разам з дагестанцамі апынулася ў іх на кватэры.

Яны выпілі тры бутэлькі каньяку, і адзін з мужчынаў прапанаваў дзяўчыне каханне. Тая пагадзілася, а на наступную раніцу прапанавала мужчынам з'ездзіць па сяброўку.

А перад выхадам яна ўбачыла на канапе пакет з грашыма. У ім было каля 10 тысяч даляраў. Схапіўшы грошы, дзяўчына пакінула кватэру і ў адным з гандлёвых цэнтраў памяняла частку валюты на рублі.

На гэтыя грошы яна набыла касметыку (12 мільёнаў рублёў), мабільны тэлефон (10 мільёнаў рублёў), два ноўтбукі па 8 мільёнаў рублёў кожны, вопратку, абутак, сумачкі, MP3-плэер.

На наступны дзень разам са сваім сябрам накіравалася на рынак, дзе выдаткавала на вопратку для сябе і свайго спадарожніка амаль тры тысячы даляраў. Дзяўчына таксама аплаціла яго навучанне і дала з сабой тысячу даляраў «на дробныя выдаткі».

Затрымалі яе праз два дні ў краме, дзе яна працягвала марнаваць чужыя грошы.

З усёй сумы ў дзяўчыны засталася 1000 даляраў.

Калі дагестанцы звярнуліся ў міліцыю, дзяўчыну хутка вылічылі. Партызанскі райаддзел Следчага камітэта распачаў на дзяўчыну крымінальную справу за крадзеж. Ёй пагражае да сямі гадоў пазбаўлення волі.

Шокам для саміх следчых аказалася тое, што ёй усяго 15 гадоў і яна вучыцца ў адным з каледжаў Мінска. Як паведаміў прэс-сакратар Упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў, у адносінах да грамадзян Расіі праводзіцца праверка. Па словах Герасімава, адзін з дагестанцаў жыве ў Мінску, дзе здымае кватэру.

**Дагестанцаў, якія гулялі з 15-гадовай, пакуль не затрымлівалі**

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

**Затрымалі «кума»**

КДБ затрымаў намесніка начальніка па рэжыме і аператыўнай працы («кума») папраўчай калоніі №20, размешчанай у Мазыры. Падпалкоўнік браў са зняволеных хабар за спрыяльнае рашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю. Гаворка ідзе пра змякчэнне рэжыму і ўмоваў адбыцця пакарання зняволеных.

**Кінуўся на рэйкі метро**

36-гадовы мужчына зваліўся пад цягнік на станцыі метро «Няміга». Следчыя разглядаюць версію самагубства. Па сведчаннях машыніста цягніка, мужчына сам скокнуў паміж вагонамі. Смерць наступіла імгненна.

**Настаўнік-распуснік**

Малады спецыяліст, які прыйшоў у адну са сталічных школ на пасаду педагога-псіхолага, абвінавачваецца ў спакушэнні хлопчыкаў. Высветлілася, што гэта не адзінкавы выпадак. Так, яшчэ два гады таму паблізу Ждановіч ён ажыццявіў дзеянні сэксуальнага характару ў дачыненні да 11-гадовага, вучня 5 класа іншай сталічнай школы.

**Друкаваў падробленыя еўра**

Гродзенскія міліцыянты затрымалі махляра. Малады чалавек, каб зарабіць грошай, падробліваў Шэнгенскія візы і друкаваў падробленыя еўра. Падазраваны прапаноўваў, але і кантракты на працу ў Іспанію. Усе дакументы ён вырабляў пры дапамозе графічных рэдактараў у сябе на камп'ютары.

**СМ**

# Статут вернецца ў Беларусь?

Музей гісторыі Магілёва хоча выкупіць **унікальную кнігу**.

Усяго тыдзень спатрэбіўся беларусам, каб сабраць 26 мільёнаў на нацыянальную рэліквію. Цяпер ёсць надзея, што Статут Вялікага Княства Літоўскага, выстаўлены на электронны аўкцыён у Маскве, вернецца на Бацькаўшчыну. Гэта будзе першы арыгінал Статута на старабеларускай мове ў зборах нашай краіны.

Статут выстаўлены на продаж уладальнікам антыкварнай крамы ў Маскве і ацэнены ў $45 тысяч. Гэта прыкмеціў студэнт-энтузіяст Андрэй Радкоў. Далей ініцыятыву падхапілі магілёўскія музейнікі.

10% сумы, паводле дамоўленасці з прадаўцом, неабходна было сабраць за два тыдні ў якасці заставы. Рэшту трэ будзе пералічыць цягам трох месяцаў.

Збор сродкаў пачаўся ў сераду, 16 мая. «Знайшоўся прыватны спонсар, які прапанаваў падарыць суму, неабходную для выплаты заставы, — расказвае дырэктар музея Аляксей Бацюкоў. — Сваю дапамогу нам прапаноўваў і Нацбанк». Уносіць заставу ініцыятары збіраюцца на наступным тыдні. Лік асобаў і арганізацый, якія ўзялі ўдзел у акцыі, ідзе на дзясяткі.

Канчатковай сумы пакуль не назбіралася, таму Бацюкоў заклікае працягваць пералічваць грошы.

Самы шчодры дабрадзей папрасіў, каб ягонае імя не разгалошвалі, удакладніў дырэктар. Вядома толькі, што ён жыве на захадзе Беларусі.

Статут ВКЛ — найвышэйшае дасягненне старабеларускай прававой думкі, аснова ўсёй юрыдычнай сістэмы ВКЛ. Па сутнасці, гэта была сярэдняевечная Канстытуцыя, якая дзейнічала на ўсіх землях сучаснай Беларусі і была адной з самых прагрэсіўных у Еўропе. Статут паўплываў на станаўленне нацыянальнай прававой думкі, а таксама на юрыдычныя традыцыі суседніх краін — Расіі, Польшчы, Эстоніі, Латвіі... Магчыма, менавіта дзякуючы яму беларусы адрозніваюцца вялікай павагай да права.

Статут 1588 распрацаваны падканцлерам ВКЛ і старастам магілёўскім Львом Сапегам і выдадзены за яго асабістыя сродкі ў друкарні, заснаванай у Вільні Пятром Мсціслаўцам на грошы магілёўскіх купцоў Мамонічаў.

Калі Статут удасца выкупіць, ён зойме пачэснае месца ў Музеі гісторыі Магілёва.

**Сяргей Гезгала**

**Ва ўсім свеце налічваецца 60 асобнікаў Статута**

З іх 29 адносяцца да выдання 1594—1595 гадоў: Вялікабрытанія (1), Літва (6), Польшча (6), Расія (11), Украіна (5), а ў Беларусі няма ніводнага.



**Дырэктар музея Аляксей Бацюкоў марыць пра першы ў Беларусі Статут.**

**Пералічыць грошы на гэтую добрую справу можна на рахунак музея:**

УК «Музей гісторыі Магілёва»
212030 Магілёў, вул.Ленінская, 1а

**Рахунак:**

УНП 790203960
Філія 700 МАУ ААТ «АСБ Беларусбанк» МФО 153801536
р/р 3642014673147
Магілёў, вул. Першамайская, 71

**Мэта плацяжу:** На развіццё музейнай справы і ахову гісторыка-культурнай спадчыны (для куплі Статута ВКЛ)

**УВАГА:** Бухгалтэрыя музея просіць дакладна і цалкам пазначаць мэту плацяжу.

# Меладрама пра аўталаўку

У Мінску прэзентавалі фільм Віталя Дудзіна **«На ростанях»**.

Якуб Колас тут ні пры чым. Фільм «На ростанях» («На перепутье»), зняты на «Беларусьфільме», — меладрама пра сучасную Беларусь, размеркаванне, аўталаўку і вясковае жыццё. Гэтым фільмам закрылі «Фестываль еўрапейскага кіно» ў Мінску 17 мая.

Галоўная гераіня — выпускніца гандлёвага тэхнікума Каця (яе сыграла Вераніка Пляшкевіч), якую размеркавалі з Мінска працаваць у аўталаўку ў Барысаўскі раён. Шафёр аўталаўкі Пятровіч закахаўся ў Кацю. Класічны любоўны трохкутнік дапаўняе трактарыст Гена, які таксама прэтэндуе на сэрца дзяўчыны. На экране разгортваецца змаганне добрага трактарыста Гены з яшчэ лепшым шафёрам Пятровічам. Зусім як у брэжнеўскім або нават сталінскім кіно, дзе ўсе праблемы былі вырашаныя, апроч сардэчных.

Сюжэт рэжысёр прыдумаў разам са сцэнарыстам Дзмітрыем Якутовічам, якому і прыйшла ідэя зняць фільм пра размеркаванне.

Яшчэ сваёй бясхмарнасцю стужка нагадвае «шэдэўр» патрыятычнага расійскага кінамастацтва «Любіць парускy». Пятровіч (актор Руслан Чарнецкі — на фота) нават знешне падобны на маладога Джыгурду.

Калі паказаць фільм замежніку, ён можа і не зразумець, што дзеянне адбываецца ў Беларусі. «Мы здымалі фільм для беларускага гледача і, канечне, для расійскага, — кажа 68-гадовы рэжысёр Віктар Дудзін. — Аднак кожнаму беларусу зразумелыя тыя праблемы, якія мы закранаем: гэта тыя самыя праблемы, якія былі і ў СССР. Галоўнае ў фільме іншае: чалавек, які ніколі не быў за МКАДам, трапляе ў вёску. І ў галоўнай гераіні змяняецца светаўспрыманне. Яна ўнутрана ўзбагачаецца, у яе мяняецца сістэма каштоўнасцяў — фільм пра гэта». (Азначым, што ў фінале галоўныя героі з вёскі з'язджаюць: ён – у дальнабойшчыкі, яна – у мінскі гіпермаркет.)

У канцы фільма ёсць падзякі Службе бяспекі прэзідэнта і міністру абароны Жадобіну. Міністр, аказваецца, даў здымачнай групе верталёт, каб «паказаць прыгажосць беларускай прыроды з вышыні птушынага палёту». А Службе аховы дзякуюць за тое, што акрэслілі аб'екты, якія можна здымаць і якія нельга.

Месцамі «На ростанях» нагадвае рэкламу беларускай сацыяльнай мадэлі. Вось Пятровіч тлумачыць Каці, што яна мусіць вывучыць на памяць усе цэны — дзяўчына адказвае: «А калі заўтра цэны панізяцца?» Вось трактарыст Гена, будуючы хату, збіраецца браць крэдыт. Вось вясковая кабета купляе цукру і макароны за пару тысяч рублёў.

Беларуская вёска ў кіно паказаная жыццярадаснай, хоць і харчуецца ў асноўным макаронаю і малака ёй не заўжды хапае. А калі Каця пачынае прымаць у вяскоўцаў шклатару, здадзеныя бутэлькі ледзь змяшчаюцца ў грузавік.

На ўкраінскім тэлебачанні кіно ўжо дэманстравалі, адкуль яно і трапіла ў вольны доступ у інтэрнэт. А вось па беларускіх каналах фільм не паказвалі. Мо баяцца, што беларускі глядач з-за МКАДа не пазнае беларускай рэчаіснасці?

**Юрась Ускоў**

**Што пішуць пра «На ростанях» у інтэрнэце:**

«Як заўжды, усё перабольшана. З рэальнасцю сувязі амаль няма — а так фільм глядзець можна».

«Беларусьфільм» заўжды гляджу з вялікім задавальненнем».

«Гэта такая рэклама размеркавання? Каб усе захацелі ў вёску?»

«Праз сорак хвілін прагляду паглядзела на час — аказваецца, прайшло ўсяго 15 хвілін. Нудоцце».



## Сціслa

**У Мінску «не плануюць» паказваць фільм «Дыктатар»**

Фільм Сашы Барона Коэна «Дыктатар» апавядае пра лёс блізкаўсходняга дыктатара. Таксама кіно не будзе дэманстравацца ў Таджыкістане, бо «абражае менталітэт мясцовага насельніцтва».

**Шнураў у Мінску мацюкаўся**

Канцэрт вядомага расійскага гурту «Ленінград» адбыўся ў мінскім клубе Dozari. Раней Генеральная пракуратура Беларусі заклікала да выступлення «Ленінграда» без выкарыстання ненарматыўнай лексікі. «Калі б гэта была адкрытая пляцоўка і там былі выпадковыя людзі, я б сам забараніў такі канцэрт. А наша мерапрыемства было закрытым», — падкрэсліў лідар «Ленінграда» Сяргей Шнураў, які спяваў у Мінску песні з мацюкамі.

**Гарэў палац Умястоўскіх**

У мястэчку Жамыслаўе Івейскага раёна гарэў палац Умястоўскіх. Ён быў пабудаваны на пачатку XIX ст. як зменшаная копія Лазенкаўскага палаца ў Варшаве. Цяпер будынак безгаспадарны. Некалькі гадоў таму яго спрабавалі прыватызаваць.

**Спявачка Адэль атрымала 12 узнагародаў Billboard**

Брытанская спявачка Адэль атрымала 12 з 18-ці ўзнагародаў Billboard Music Awards, у ліку іншых – у намінацыі «Найлепшая спявачка года» і «Найлепшы альбом». У пачатку гэтага года на Brit Awards яна ўжо была прызнана найлепшай спявачкай года ў Брытаніі, а таксама атрымала шэсць узнагарод Grammy.

**СМ**

**Фотафакт**



**Расійская кінастудыя арандавала пляцоўку ля Акадэміі навук для здымкаў фільма. Дзеля гэтага на Акадэміі павесілі шыльды «Московский городской суд» і расійскія сцягі. Назву кіно трымаюць у сакрэце, здымаецца ў ім Ігар Вернік.**

## «Дырэктарскі лес»

Ідучы раніцою каля мясцовай будаўнічай арганізацыі, сустрэў знаёмага, які працуе там на дрэваапрацоўцы. «Дырэктарскі лес пілаваць будзем», — расказаў ён.

Неяк так выйшла, што ў цяперашніх уладароў, ад самага верху да кіраўніка невялікага будаўнічага трэста, апынуліся ў руках лясы, зямля, нерухомасць, сродкі вытворчасці. А просты народ пілуе, будуе, губляе здароўе. Вось такая сацыяльна арыентаваная эканоміка.

Кожны, хто паразмаўляе з рабочым са сферы дзяржаўнай вытворчасці, будаўніцтва, сельскай гаспадаркі, пачуе пра безгаспадарлівасць, пастаўкі няякаснага абсталявання, крадзеж велізарных сродкаў падчас будаўніцтва, зневажальнае стаўленне да падначаленых. Палохае тое, што да гэтага прызвычаіліся як да нормы, маўляў, ну былі б вы на месцы начальства.

Што ж трэба, каб трапіць на тое месца? Асноўнае — гэта адсутнасць асабістых поглядаў і поўная маўклівая згода з курсам кіраўніцтва. Астатняе — хамства, падхалімаж, прага да нажывы любой цаной — гэта ўжо вытворнае ад першага. Напэўна, ёсць іншыя людзі ва ўладзе, тыя, хто ўсё разумее, але маўчыць ды баіцца за працу і родных. Але мы не чулі пра іх, бо яны хаваюцца.

Такая сістэма зможа прывесці дзяржаву і народ толькі да адмоўных вынікаў.

**НД**

# А яна ўсё ж жыве!

Я зняволены і адбываю пакаранне ў папраўчай калоніі №5 г.Івацэвічы. 29 красавіка ў клубе ўстановы прайшла вечарына «Мелодыю мовы славянскай я чую». Яна была прысвечана 130-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы. Са сцэны гучалі іх вершы і апавядалі пра іх творчы шлях і няпросты жыццёвы лёс. Больш за ўсё мяне ўразілі творы беларускіх рок-гуртоў, якіх я раней не чуў. Усё гучала ў выкананні мясцовых музыкаў. Сцэну ўпрыгожвалі ручнікі, а ўсе хлопцы былі апрануты ў нацыянальныя строі.

Хацелася б падзякаваць усім, хто браў удзел у вечарыне, і асобна — мастацкаму арганізатару Алене Цыбульскай.

У зале ад пачатку і да заканчэння было шмат гледачоў, нягледзячы на тое, што прымусова іх ніхто не трымаў. У позірках шматлікіх добраахвотнікаў я заўважыў надзею!

А пасля заканчэння, калі ўжо вярталіся ў барак, мяне аклікнуў знаёмы: «Жыве Беларусь!» І я ўпэўнены, што не толькі ў яго аднаго, але таксама і ў многіх іншых вязняў, неабыякавых да роднай мовы і да лёсу краіны, склалася перакананне нават тут, за калючым дротам, што яна — жыве і будзе доўга-доўга жыць.

**Алег К., Івацэвічы**

P.S. На жаль, у зале не было Мікалая Аўтуховіча. Ён быў знаёмы з музыкамі і заўсёды марыў аб тым часе, калі яны пачнуць спяваць на роднай мове. Карыстаючыся момантам, перадаю яму прывітанне з пажаданнямі. Я ганаруся тым, што пазнаёміўся з ім. Трымайся. Усё будзе добра!

**Аснова ўсіх асноў**

Пагоны сінія, зялёныя, чырвоныя:
Пажарнікі, таможня, пагранцы,
Берэты крапавыя, мускулы сталёвыя…
На кожным кроку — верныя байцы.

Яшчэ дадай сюды інспектараў, чыноўнікаў,
Далёкіх ад палёў і ферм калгасных,
Але якія спажываюць найгустоўненька
Смятану, масла, хлеб, бекон каўбасны…

Кагорта «выбраных« законна разрастаецца
І дбае аб даплатах і правах,
А эканоміка пакуль яшчэ трымаецца
На хлебаробах, на даярках, пастухах.

**Рыгор Серыкаў**

# Беларуская глыбіня. **Балада Высоцкага-Макарэвіча**

Піша **Павал Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*...І ўсклікнуў зычным голасам,*
*як рыкае леў,*
*і калі ён ўсклікнуў,*
*тады сем грамоў прамовілі*
*галасамі сваімі.*
*Адкрыццё Яна Багаслова 10:3*

У Беларусі глыбокі голас.

Засяроджаная, стоеная ў барах, балотах ды пушчах — калі яна пачынае гучаць, ахопліваюць дрыжыкі.

Што ты хочаш сказаць гэтым гулам з птушыным пошчакам, зямля на сямі вятрах, зарослая лесам і ўспамінамі, дрымучая, дрымотная?.. Пра што ты спяваеш людзям, якія не чуюць, не разумеюць?.. Пра што ты, забытая і пакінутая, молішся?..

Берасцейшчына, што сама прамаўляецца з пранізлівым посвістам, — шматгалосы спеўны цуд. Гудуць вершаліны дрэў, салаўіныя ноты скразяць у пераборах лісця, у струнах сонечнага прамення пераліваюцца пяшчотныя паўтоны — і калышацца ў хвалях часу ніколі не паўтараная няспынная сімфонія. Сумна. Шчымліва. Велічна.

Сваімі лёгкімі Еўропы, сваімі сплеценымі, перавітымі беларуска-польска-габрэйска-ўкраінскімі галасавымі звязкамі гэтая глыбіня выдыхнула спеўных геніяў XX стагоддзя — Забэйду-Суміцкага, Шырму, Высоцкага, Макарэвіча. І выдыхнула так, што пачула паўсвету.

Народжаныя ўжо ў Маскве, Высоцкі і Макарэвіч выконвалі адчайную і адвечную місію, якой тысячу гадоў аддавалі сябе беларускія апосталы Тураўскі, Скарына, Мсціславец, Федаровіч, Полацкі, потым Глінка, Грыбаедаў, Дастаеўскі, а потым Старавойтава, Кавалёў, Навадворская... Збаўленне Расеі. Словам, малітвай, культурай, нават юродствам — аж да ахвяры.

Род Высоцкага адсюль, з Сяльца колішняга Пружанскага павета, а цяпер Бярозаўскага раёна. Мешчанін Шлёйм, які ўзяў сабе імя Сямён, перабраўся ў Высокае, дзе запісаўся Высоцкім, нейкі час выкладаў у Брэст-Літоўску расейскую мову і нарадзіў Вольфа — дзеда Уладзіміра. У Маскве Высоцкія ўкараніліся ў Мяшчанскай слабадзе, з XVII ст. заселенай беларусамі.

Уладзімір нарадзіўся зімой 1938, у самы разгар крывавага сталінскага тэрору — потым усё жыццё, усім сваім хрыплым знадрыўным голасам ён будзе вырываць з сябе ды сэрца трохсот мільёнаў жыхароў адной шостай часткі сушы страх, боль і хлусню расейскага XX стагоддзя. Ранняе дзяцінства ў маскоўскай камуналцы, блатныя спевы на Вялікім Карэтным... Першая тэатральная работа — роля Парфірыя Пятровіча ў спектаклі паводле яшчэ аднаго тутэйшага, што сіліўся выкараніць зло з расейскага сэрца — «Злачынства і пакаранне» Дастаўескага.

Высоцкі ўсё жыццё вяртаўся ў Беларусь — то на здымкі «Беларусьфільма» з сябрам, рэжысёрам Віктарам Туравым («Я родам з дзяцінства», «Вайна пад стрэхамі»), то ў Мінск на канцэрты ды спектаклі (бацька згадвае: студэнтам знаёмыя запрашалі ў інтэрнацкі пакой на Паркавай, дзе ён спяваў), то на мядовы месяц на Свіцязь: іх з Марынай Уладзі, якая паходзіць з Наваградчыны, вадзіў па руінах знакамітага замка Міхась Ткачоў.

Хіба не пра родную Беларусь гэта, з фільма «Сыны сыходзяць у бой»:

Хто паверыў, што спалілі зямлю?
Не, яна пачарнела ад гора…

Хіба ж не беларускае сэрца б'ецца ў гэтым да болю Высоцкім:

Я дышу, і значыць, я люблю,
Я люблю, і значыць, я жыву…

І ці не скразіць, не грае Беларусь у знакамітай «Цыганскай», дзе ўсё не так:

Я паўз поле, уздоўж ракі,
Цьма святла без Бога,
А ў чыстым полі — васількі,
І дальняя дарога…

А «Буслы», «Коні пераборлівыя», «Лазня пабеламу», «Балада пра барацьбу»...

Пройдзе ўсяго 15 гадоў ад нараджэння Высоцкага, зноў скалыхнецца беларуская глыбіня, і ў той жа Маскве ў год смерці Сталіна свет агалосіць новы беларускі крык — немаўляці Андрэя Макарэвіча.

Родныя мястэчкі абодвух — Сялец і Паўловічы — усяго за 10 км адно ад аднаго. Ды і «цяжкі» Высоцкі, і «лёгкі» Макарэвіч — два бакі аднаго, бліскучага ды звонкага беларускага медаля.

І наколькі важка, грымотна, то з глыбокім пакаяннем, то з бадзёрым бардаўскім гумарком гучаў у застойнай Расеі Высоцкі — настолькі ж лёгка, светла і свежа са сваёй заўсёднай белазубай усмешкай ды летуценным блюзам менестрэля падхапіў ягоны спеў у ветры пераменаў Макарэвіч: «Новы паварот», «Птушка колеру ўльтрамарын», «Калі сонца на далоні, калі сэрца ў гуках тоне...» — як гэта пабеларуску паветрана, светла і вытанчана!

Адзін ягоны дзед, Рыгор Макарэвіч, карэнны тутэйшы, настаўнічаў на колішняй Пружаншчыне, другі, Антоні Усакоўскі, грэка-каталіцкі святар са шляхецкага роду герба «Сас», быў настаяцелем у Петрапаўлаўскай чыгуначнай царкве (і, між іншым, удзельнічаў у 1918 у З'ездзе беларусаў у Маскве). І вось у сям'і берасцейскага архітэктара, што рэканструяваў Беларускі вакзал, Вадзіма Макарэвіча, і Ніны Шмуйловіч з ваколіцаў Віцебска нараджаецца Андрэй.

Макарэвіч на поўны голас загучаў менавіта тады, калі змоўк Высоцкі. Улетку 1980-га, падчас Алімпіяды, Масква пахавала свайго героя шматтысячным недазволеным шэсцем. І пачалася новая эпоха. Васьмідзясятыя. Падпольны рок. Перабудова...

Не варта прагінацца пад зменлівы свет,
хай лепей ён прагнецца пад нас,
аднойчы ён прагнецца пад нас…

Празрыста-блюзавая, надзіва гарманічная для зняверчанай, агрубелай Расеі — «Машына часу» пераносіць нас у эпоху вечнага супрацьстаяння Беларусі з Белакаменнай: тыя нас гвалтам, а мы іх кшталтам.

Пару гадоў таму, здымаючы фільм пра ўласны радавод, Макарэвіч прыехаў сюды. У малецкай царкве захацеў паставіць свечкі. «Гэтая 1500, гэтая 2000, а гэтыя па 3000», — падказваюць яму. «Бяру дзесяць па тры тысячы», — кажа музыка і выкладае трыццаць тысячаў расейскіх. Бацюшка спрабаваў патлумачыць, што кошты ў беларускіх рублях, але зямляк махнуў рукой — ахвярую на царкву.

Месца святла
было так блізка,
можна крануцца рукой….

Свечкі даўно дагарэлі, а месца святла засталося.

Белавежская пушча, Віскулі, Макарэвіч, Высоцкі, Дастаеўскі... Быццам праз глыбокую, ад цвікоў, скразную крывавую рану, з болем і любоўю, штораз аддаючы Сябе, адсюль на ўсю Расею ды вялікі свет гаворыць, шэпча, хрыпіць, спявае і грыміць грымотамі, каб мы нарэшце пачулі, Творца.

*Куплін*

**Тыя нас гвалтам, а мы іх кшталтам**

»

# Рэканструкцыя адной забастоўкі

Пра тое, як будучыя настаўнікі дамагаліся палітычных правоў, піша **Анатоль Сідарэвіч.**

Удзельнік Усебеларускага з’езда і ў будучым генерал-маёр Савецкай Арміі Лукаш Калядка паставіў гэтую падзею ў цэнтр сваіх успамінаў пра юнацтва і вучобу ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Пісаў пра яе і эсэр Мікола Шыла, якога Янка Купала ўвекавечыў у «Тутэйшых». Згадваў і Антон Луцкевіч. Але перш чым пісаць пра падзею, трэба сёе-тое сказаць пра месца, дзе яна адбывалася.



Палітычная свабода немагчымая без павагі да гонару і годнасці чалавека, а справядлівасць — без роўных магчымасцяў »

Гэтых вучняў ужо не называлі «балванамі». Урок гісторыі ў Маладзечанскай семінарыі. 1910—14 г.

### Што такое настаўніцкая семінарыя?

Прасцей было б адказаць газетным штампам мінулых часоў: школа зуброжкі і кузня русіфікатарскіх кадраў. Але чаму ж тады са сцен семінарый выйшла столькі творчых людзей і змагароў за беларускую справу?

У настаўніцкія семінарыі прымалі выпускнікоў народных вучылішчаў, якія вытрымалі ўступныя іспыты і не мелі фізічных дэфектаў. Затое мусілі мець музычны слых (будучых настаўнікаў вучылі іграць на скрыпцы).

Семінарыя — закрытая навучальная ўстанова. У семінарыстаў свае бацюшка і доктар, свае бібліятэка і гарод (будучы настаўнік павінен ведаць асновы садоўніцтва і гароднінцтва). Ніхто пабочны не можа знаходзіцца на тэрыторыі семінарыі, і семінарысты не могуць пакінуць яе без дазволу. Усе іх лісты чытае педагог.

У семінарыях вучылася эліта сельскай моладзі — унукі і праўнукі прыгонных. Другое і трэцяе пакаленне нябітых мужыкоў. Сыны не самых заможных, але і не цёмных праваслаўных сялян.

З семінарыяў выйшла нямала пісьменнікаў — выкладанне славеснасці і гісторыі там было пастаўлена. За непаспяховасць адлічвалі: да выпуску іншы раз даходзіла траціна курса. Аднак ні алгебры, ні замежных моваў не выкладалі, што не дазваляла выпускнікам паступаць ва ўніверсітэты. Пасля семінарыі педагог мог пайсці хіба ў настаўніцкі інстытут і пасля яго заканчэння працаваць у гарадскім вучылішчы.

### Таемная нарада

Улетку і ўвосень 1906 года па Мінскай, Віленскай і Гродзенскай губернях пракацілася хваля аграрных страйкаў. Сяляне адмаўляліся ісці ў наймы да паноў, дабіваючыся павышэння аплаты працы і скарачэння працоўнага дня. (Патрабаванні фармулявалі ў сваіх улётках Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ) і эсэры). І паны, баючыся страціць ураджай, саступалі.

У асяроддзі семінарыстаў таксама выспяваў бунт. І гэта адчувалі беларускія сацыялісты. Але яны разумелі, што страйк у адной семінарыі поспеху не гарантуе. У красавіку 1906 на арганізаванай БСГ таемнай нарадзе ў Маладзечне паўстаў саюз чатырох семінарый — Маладзечанскай, Свіслацкай, Полацкай і Панявежскай. Пазней да гэтага саюза часова далучылася і Нясвіжская.

### Чаго яны хацелі

Пра падзеі ў Маладзечанскай семінарыі мы маем найбольш інфармацыі, бо там вучыўся карэспандэнт «Нашай Нівы» Мікола Шыла.

Семінарыстаў «дасталі» і рэжым, і дырэктар Гадыцкі-Цвірка. Дырэктар, можна прачытаць у «НН», «зрабіў з семінарыі арыштанцкія роты», «ругаецца, як п’яны звошчык на рынку, ды часам лезе біцца з кулакамі». Уеліся вучням у печань матэматык Багдановіч (мянушка Мангол) і выкладчык з мянушкай Дзядзька Хвост. Мангол абзываў семінарыстаў балванамі, а Дзядзька Хвост за імі сачыў і даносіў «па начальству».

Звольніць дырэктара, Мангола і Дзядзьку Хваста — такое было дружнае патрабаванне маладзечанскіх семінарыстаў. А таксама: не смець звяртацца да вучняў на «ты» і не смець чытаць іх карэспандэнцыю.

Ішчэ сялянскія сыны патрабавалі скараціць гадзіны непатрэбных прадметаў, накшталт граматыкі старaславянскай мовы, ды ўвесці выкладанне алгебры і замежнай мовы. Маладыя хлопцы, семінарысты запатрабавалі ў дадатак, каб ім далі права ладзіць агульнадаступныя вечарыны. Бо дзе яшчэ пазнаёміцца з дзяўчынай, як не на беларускай імпрэзе?

У патрабаваннях не было «палітыкі». Калі ж удумацца, дык у іх была квінтэсэнцыя палітыкі, бо палітычная свабода немагчымая без павагі да гонару і годнасці чалавека, а справядлівасць немагчымая без прадастаўлення людзям роўных магчымасцяў.

### Забастоўка

Патрабаванні да начальства былі сфармуляваныя на сходзе вучняў у верасні 1906. У выпадку іх невыканання семінарыя пагражала страйкам. Пасля ў семінарскай сталоўцы Гадыцкі і бацюшка спрабавалі ўгаварыць вучняў адмовіцца ад «злачыннага» намеру. Але семінарысты стаялі на сваім: забастоўка пачалася 1 кастрычніка.

Вучні паехалі пад родныя стрэхі, а іх упаўнаважныя Іван Сычоў ды Іван Пратасеня дамагліся прыёму ў папячыцеля Віленскай навучальнай акругі барона Корфа. Той, выслухаўшы скаргі, «радзіў, каб вучні пагадзіліся з панам дырэктарам». Тады два Іваны паехалі шукаць праўды ў Пецярбург, у міністэрства народнай асветы.

Тым часам Гадыцкі выключыў забастоўшчыкаў і напісаў іх бацькам лісты, параіўшы «падаваць прашэнне, каб прынялі зноў у семінарыю дзяцей іх». І некаторыя бацькі, «не папытаўшыся ў сыноў сваіх, падалі Гадыцкаму прашэнні; але як сыны пачулі гэта, то запатрабавалі прашэнні аддаць ім назад»...

А 7 лістапада дырэктара выклікаў у Пецярбург міністр народнай асветы Пётр Каўфман. Чалавек даволі ліберальны, ён спрабаваў увесці ў Расіі ўсеагульную пачатковую адукацыю. Разгон цэлай семінарыі быў яму не на руку. Магчыма, ён парадзіў дырэктару абмежавацца завадатарамі.

Тым часам некаторыя забастоўшчыкі зламаліся і напісалі прашэнні аб аднаўленні ў семінарыі. І тут здарылася нечаканае: забаставалі... дзеці. Пры кожнай семінарыі мелася пачатковае вучылішча, у якім будучыя настаўнікі праходзілі педагагічную практыку. Натхнёныя прыкладам больших, страйк абвясцілі яго вучні. 2 снежня «НН» паведамляла: «Яны не хочуць вучыцца да таго часу, пакуль не перастануць іх у школе біць, цягаць за вушы, лаяць і рабіць усё іншае, што не падходзіць да навукі».

### У Нясвіжы, Полацку, Панявежы і Свіслачы

Нясвіжскія семінарысты не маглі далучыцца да маладзечанскай забастоўкі, бо да іх была пільная ўвага жандараў: у ліпені 1906 выпускнікі семінарыі зладзілі настаўніцкі з’езд у Мікалаеўшчыне. (Гэты з’езд у аповесці «На ростанях» апісаў яго ўдзельнік Якуб Колас.)

Адначасова з маладзечанскімі баставалі семінарысты Полацка, Панявежы і Свіслачы. У красавіку 1907 у «НН» з Полацка прыйшла інфармацыя: «Вучні настаўніцкай семінарыі сталі дабівацца лепшых варункаў у сваім жыцці і навуцы. Акром таго, яны не хацелі есці поснай стравы. Тады папячыцель вучэбнай акругі... распарадзіўся закрыць семінарыю да восені, а 12 вучняў выгнаў саўсім». Ці няма якіх звестак пра той страйк у следчай справе НКВД гісторыка Данілы Васілеўскага? Ці не пісаў пра яго расстраляны пасля бальшавікамі рэдактар «Савецкай Беларусі» Павел Шастакоў, які ў 1907 стаў полацкім семінарыстам?

І звесткі пра бунты ў Панявежскай і Свіслацкай семінарыях варта шукаць у запісах выпускнікоў. Мо ў следчых справах народнага камісара асветы БССР Антона Баліцкага ці лінгвіста Янкі Бялькевіча яны маюцца, мо Макар Краўцоў дзе абмовіўся пра забастоўку ў Свіслачы ці акадэмік Сцяпан Некрашэвіч ды слуцкі паўстанец Антон Сокал-Кутылоўскі што напісалі?.. Спадзеў на архівы КДБ ды царскай паліцыі.

### Не марна баставалі

1 студзеня 1907 маладзечанская забастоўка скончылася. Семінарысты зноў запоўнілі класы: трэба было рыхтавацца да іспытаў. Траплялiся, успамінае Лукаш Калядка, сярод семінарыстаў і сэрцаеды, для якіх дзяўчаты, што служылі ў выкладчыкаў, выкрадалі адказы на экзаменацыйныя білеты.

Тым часам дырэктар адпомсціў завадатарам страйка — Сычову і Пратасеню. 13 красавіка 1907-га карэспандэнт «НН» паведаміў: «З семінарыі выгналі двух вучняў. Начальства іх вінаваціць у тым, што... яны зрабілі саюз чатырох семінарый». Ніякіх звестак пра іх далейшы лёс няма.

**Дзяніс Крывадубскі — «Дзяніс з-пад Слуцка»**

У «НН» № 31’2011 быў надрукаваны нарыс Анатоля Сідарэвіча «Палітычны дэтэктыў 1907 года». У ім вялося пра тое, як у 1907 пад Слуцкам паліцыя арыштавала вучняў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Дзяніса Крывадубскага, Лукаша Калядку і Міхала Вайцяховіча, Міколу Шылу і Леаніда Шашуру. Семінарысты, удзельнікі забастоўкі, падазраваліся ў распаўсюдзе забароненай літаратуры, якую выпускалі БСГ і эсэры.

За год гісторыку стала вядома, што Дзяніс Крывадубскі, які разам з Міколам Шылам быў акторам у тэатры Ігната Буйніцкага, перапісваўся з рэдактарам-выдаўцом «НН» Аляксандрам Уласавым, а адзін свой допіс у газету падпісаў псеўданімам «Дзяніс з-пад Слуцка».

Хто цяпер меў узначаліць саюз? Ахвотных стаць лідарамі не знайшлося. Дый рэвалюцыя ў Расійскай імперыі ішла на спад, надыходзіла рэакцыя.

А ўсё ж семінарысты не марна баставалі. Зварот на «ты» і знявагі выкладчыкаў адышлі ў мінулае. Знікла цэнзура. Вучням дазволілі чытаць кнігі не толькі з семінарскай бібліятэкі і «палучаць пісьмы без помачы дырэктара». А ў сярэдзіне чэрвеня чытачы «НН» пабачылі і такое паведамленне: «...Цвірка-Гадыцкі, што быў дагэтуль дырэктарам Маладзечанскай семінарыі..., ужо болей тутака не будзе». Дырэктарам стаў гісторык і мовазнаўца Апанас Ярушэвіч, аўтар працы пра гетмана Канстанціна Астрожскага, прадстаўнік ліберальна-памяркоўнай плыні ў заходнерусізме. Знік і Мангол. А 6 ліпеня прыйшла навіна і з Полацка: «Ад восені ў вучыцельскай семінарыі прыбаўляюць яшчэ чацвёрты клас і прыбаўляюць новыя навукі».




## СПОРТ

### Футбол.12 тур

**24 мая** ў рамках дванаццатага тура Чэмпіяната Беларусі па футболе сустракаюцца:
«Шахцёр» (Салігорск) — «Нафтан» (Наваполацк);
«Нёман» (Гродна) — «Славія» (Мазыр);
БАТЭ (Барысаў) — «Мінск».

### Гандбол. Беларусь — Германія

**30 мая** жаночая зборная Беларусі сустрэнецца з Германіяй. Матч пройдзе ў рамках адбору да Еўра-2012. Сустрэча пачнецца а 17.00 у Палацы спорту.

### KAP Jumping Horse Show

**Ад 24 да 27 мая ў Ратамцы** пройдуць Міжнародныя спаборніцтвы па пераадоленні перашкодаў KAP Jumping Horse Show. Канкур (пераадоленне перашкодаў) — найбольш відовішчы від коннага спорту. Вершнік з канём павінен прайсці маршрут, пераадольваючы ўсталяваныя на ім перашкоды.
Спаборніцтвы збяруць эліту коннага спорту з Расіі, Беларусі, Латвіі, Літвы, Эстоніі.

## ІМПРЭЗЫ

### Рок за Баброў

**2 чэрвеня на аэрадроме «Баравая»** пройдзе VII штогадовы музычны фестываль «Рок за Баброў». «Начныя Снайперы» і «Горад 312» падзеляць сцэну разам з «Ў нескладовым», Naka, Open Space, The Toobes. Пачатак а 14-й.




### Палац вялікіх князёў літоўскіх

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава са збораў Нацыянальнага музея Літвы «Палац вялікіх князёў літоўскіх». Экспазіцыя прысвечана гісторыі палаца, жыццю і дзейнасці вялікіх князёў. Можна пабачыць прадметы інтэр'ера, археалагічныя знаходкі. Выстава знаёміць наведнікаў з унікальнымі ўзорамі мэблі, прадметамі побыту і ужытку, габеленамі XV — XVI стст., керамікай XIV—XIXI стст., рэдкімі ўзорамі даспехаў, зброі, картаграфіі і атрыбутыкі часоў Вялікага Княства Літоўскага.





### Burn дрыфт Мінск

**3 чэрвеня сталічны аэрапорт «Мінск-1»** ператворыцца ў гоначную трасу. Замест самалётаў «лётаць» будуць спартыўныя аўтамабілі — адбудзецца аўтамабільнае шоу «Burn дрыфт Мінск».

### Ноч паядальнікаў рэкламы

**У Палацы рэспублікі 1 чэрвеня пройдзе «Ноч паядальнікаў рэкламы-2012»** — сямігадзінны начны марафон найлепшых рэкламных ролікаў з калекцыі Жана Мары Бурсіко. Пачатак а 22.00.

### Гальшанскі замак-2012

**26 мая ў Гальшанах (Ашмянскі раён)** пройдзе фестываль «Гальшанскі замак-2012». Запланаваныя парад рэтрамашын, майстар-клас па сярэднявечных танцах (вучаць гурты «Яварына» і «Фламея»), рыцарскі турнір і турнір лучнікаў, конны турнір... Пачатак а 10-й.

### Майстар-клас бубначоў

**27 мая ў супермаркеце «Музыка» (Коласа, 39)** бубначы-прафесіяналы падзеляцца майстэрствам з усімі ахвотнымі. Пачатак а 15-й.

## КАНЦЭРТЫ

### Дзень народзінаў Кулінковіча

**24 мая ў клубе «Гудвін» (пр.Незалежнасці, 19)** — дзень народзінаў Аляксандра Кулінковіча. Пачатак а 20-й.

### Зніч

**31 мая ў клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** зайграе ветэран беларускага фолк-металу, гурт «Зніч». Музыкі абяцаюць вялікі сольны канцэрт «Найлепшае за 16 гадоў і эксклюзіўныя песні». Пачатак а 19-й.

### Gregory Porter і Яблычная Гарбата

**26 мая на сцэне мінскага Дома афіцэраў** — намінант прэміі Грэмі Грэгары Портэр і гурт «Яблычная Гарбата». Пачатак а 19-й.

### Гарык Сукачоў

**31 мая на сцэне Палаца спорту** — расійскі рок-спявак Гарык Сукачоў. Пачатак а 20-й.

### Юбілей Мікалая Сацуры

**29 мая ў к/з «Мінск»** — сольны канцэрт ансамбля «Сябры», прысвечаны юбілею кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтва Мікалая Сацуры. Пачатак а 19-й.

## ВЫСТАВЫ

### musik + X

**Да 30 чэрвеня ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** працуе выстава «musik + X». Гэта фестываль, дзе кожны аматар сучаснай музыкі знойдзе штосьці на свой густ. У чатырох залах прадстаўленыя чатыры музычныя напрамкі: поп-музыка, індзі-рок, хіп-хоп ды тэхна, а таксама звязаная з імі атрыбутыка. Галоўныя элементы выставы — вялікія праекцыі, дзе «грае музыка».

### Юзаф Крашэўскі

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі (Сурганава, 15)** працуе выстава, прымеркаваная да 200-годдзя з дня нараджэння пісьменніка Юзафа Ігнацыя Крашэўскага. У «Кнізе рэкордаў Гінэса» ён адзначаны сярод «самых пладавітых аўтараў» як «чэмпіён эпохі гусінага пяра».

### Калаж. Асамбляж

**Да 26 мая ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава Ханса Баума «Калаж. Асамбляж». У аснову творчасці Ханса Баума пакладзены фармальны эксперымент з прадметамі штодзённага карыстання, фрагментамі рэчаіснасці.

## ТЭАТРЫ

### 23 мая

**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 24 мая

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 25 мая

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»

### 26 мая

**Лялек** — «Кот у ботах»

### 27 мая

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 28 мая

**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

### 29 мая

**Беларускай драматургіі** — «Сублімацыя любві»

### 30 мая

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Трубадур»

### 31 мая

**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Лялек** — «Мыйдадзір»

### 3 чэрвеня

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»

## КІНО

### Найсаладзейшая меладрама

Шчаслівчык (The Lucky One)
ЗША, 2012, каляровы, 101 хв.
**Рэжысёр:** Скот Хікс
**Ролі выконваюць:** Зак Эфран, Тэйлар Шылінг, Джэй Р.Фергюсан
**Жанр:** Меладрама паводле рамана Нікаласа Спаркса
**Адзнака:** 4,5 (з 10)

Марскі пехацінец Логан Цібо не падарваўся на міне таму, што падабраў з пылу фота жанчыны. Вярнуўшыся ў Паўночную Караліну, Логан вырашае знайсці незнаёмку... Фільм Скота Хікса — найсаладзейшая барацьба цукру з мёдам. Меладрама, пастаўленая па далёка не геніяльнай кнізе Нікаласа Спарка, згубіла нават намёкі на канфлікт. Зак Эфран — чуллівы, сумны і закаханы. Ён і сабачку пагладзіць, і сына ад наўдалага шлюбу падтрымае.
Жаночай удачы падыгрывае прырода: чырвонае золата лісця, сонца на небасхіле, светлыя промні. Стваральнікі шчодра насыцілі стужку музыкай — меладрама ж. Фільм — вартая альтэрнатыва слёзавыціскальным «Прыцэмкам». Рыхтуйце насовачкі!

**Андрэй Расінскі**



# 10 звычак шчаслівых людзей

Вы здзівіцеся, наколькі **ўсё проста**.



### 1. Шчаслівых людзей не цікавіць, што думаюць пра іх іншыя

Іх падыход вельмі лаканічна апісала Како Шанэль: «Мне ўсё адно, што вы пра мяне думаеце, бо я пра вас не думаю наогул». Вы робіце тое, што лічыце неабходным. Магчыма, вашы дзеянні будуць памылковымі, але гэта ваш досвед, і ён неацэнны!

Усе паважаюць незалежных, упэўненых у сабе людзей, якія маюць выразную жыццёвую пазіцыю. Гэта не значыць, што такія людзі не памыляюцца. Але гэта азначае, што яны ніколі не азіраюцца ў пошуках адабрэння або асуджэння.

### 2. Яны ўмеюць бачыць сітуацыю «збоку»

Нішто ў гэтым жыцці не бывае адназначным, таму вельмі карысна ўмець захоўваць нейтралітэт. Часам гэта вельмі складана. Кітайская мудрасць кажа: «Правільна дзейнічае той, хто назірае за жыццём адстаронена — як малпа, седзячы на дрэве, назірае за сутычкай двух тыграў».

Нейкая частка нас павінна заставацца такой малпай, што дазваляе нам прымаць правільныя рашэнні і не марнаваць сілы там, дзе не варта ўвязвацца ў бойку.

### 3. Ні пра што не шкадуюць

Страчаныя магчымасці, каханне, якое так і не адбылося, здрада сяброў — усё гэта не варта нашага часу і энергіі. «Жаль па страчаным не павінен доўжыцца больш за пяць хвілін», — сцвярджае амерыканскі псіхолаг Олаф Майнер.

### 4. Умеюць быць удзячнымі

І гаворка ідзе не пра чарговае «дзякуй», а пра тое, што ідзе ад сэрца. Шчырая падзяка здольная ператварыць наша жыццё ў сапраўдны цуд. Справа ў тым, што калі мы дзякуем — мы факусуемся не на тым, чаго ў нас няма, а на тым, што ёсць, а падобнае, як вядома, прыцягвае падобнае. Будзьце ўдзячныя і дзякуйце нават за тое, чаго яшчэ не здарылася.

### 5. Захоўваюць адчуванне навіны

Дасягнуўшы чагосьці, мы, як правіла, радуемся гэтаму зусім нядоўга, а потым адчуванне навіны нас пакідае. Але за яго трэба «ўчапіцца» рукамі і нагамі. Запамінайце моманты свайго трыумфу. Радасныя падзеі павінны стаць генератарам вашых будучых перамог. Таму пастаянна выклікайце ў памяці і зноў перажывайце ўсе адценні шчаслівых эмацыйных станаў. Ставіць перад сабой новыя мэты і дасягаць іх — гэта выдатна. Але вельмі часта ў пагоні за тым, чаго яшчэ няма, мы не паспяваем напоўніцу атрымаць асалоду ад таго, што ўжо ёсць! Менавіта гэта і робіць нас няшчаснымі.

### 6. Умеюць з сябе пасмяяцца

Іронія — выдатная якасць. Але калі чалавек можа быць іранічным у дачыненні да самога сябе — ён непераможны!

Псіхолагі перакананыя, што менавіта самаіронія — найбольш дакладны крытэр развітага інтэлекту. Здольнасць шчыра смяяцца з сябе ўласцівая толькі моцным духам і розумам людзям, якія не баяцца ніякіх стэрэатыпаў ці перадузятасцяў. Яна непасрэдна звязана з радасцю і аптымізмам.

### 7. Жывуць «у аддзеле сённяшняга дня»

Так проста і геніяльна сфармуляваў адну са звычак шчаслівых людзей амерыканскі псіхолаг Дэйл Карнегі. Людзі, якія жывуць пад цяжарам мінулых памылак і негатыўнага досведу, з аднаго боку, і пад страхам перажыць правал у будучыні — з другога — не жывуць наогул.

### 8. Ніколі не стамляюцца вучыцца

Кнігі, падарожжы, новае хобі, замежныя мовы, жаданне спазнаць гэты свет і ніколі не пераставаць здзіўляцца — яшчэ адна выдатная звычка шчаслівых людзей, бо менавіта яна дапамагае ім рэалізоўваць сябе.

### 9. Ніколі не зайздросцяць

Мы звыклі параўноўваць сябе з іншымі і супастаўляць свае поспехі з поспехамі навакольных. У здаровай канкурэнцыі няма нічога дрэннага, зрэшты, часцяком яна перарастае ў пачуццё нездаволенасці сабой і зайздрасці да людзей больш паспяховых. Аднак у свеце ёсць толькі адзін чалавек, з якім вы можаце сябе параўноўваць, — гэта вы самі ў мінулым. І калі сёння вы здолелі стаць хоць крыху лепшым, чым учора — значыць, вы пераможца і можаце зайздросціць самі сабе!

### 10. Правільна выбіраюць сяброў

Роберт Грын у кнізе «48 законаў улады» піша: «Чужыя пакуты і няшчасці могуць стаць для вас згубнымі — эмацыйныя станы такія ж заразныя, як хваробы. Вам можа здавацца, што вы высакародна дапамагаеце няшчаснаму чалавеку. Але вельмі часта няшчасныя самі наклікаюць на сябе беды і могуць гэтак жа наклікаць іх на вас. Важна адрозніваць людзей, якія сапраўды маюць патрэбу ў дапамозе, ад тых, якія сваімі дзеяннямі, думкамі і ўчынкамі неаднаразова наклікаюць бяду на сваю галаву.

Небяспечны (і найбольш заразны) тып — гэта людзі, якія заўсёды ўсім нездаволеныя і прывыклі лічыць сябе пастаяннымі ахвярамі. Уцякайце ад іх, як ад пошасці. Майце зносіны са шчаслівымі — і яны заразяць вас шчасцем. Майце зносіны са шчодрымі — і станеце такімі ж. Калі вы сумуеце — шукайце людзей жыццярадасных».

**ІН**

**Аўто**

## У Беларусі з'явілася дызпаліва Еўра-5

На беларускіх АЗС цяпер можна набыць дызельнае паліва самага высокага еўрапейскага стандарту якасці Еўра-5. Каштуе яно 7600 рублёў за літр, гэта на 10% даражэй за звычайнае дызельнае паліва. Кіроўцы асцерагаюцца, што «Белнафтахім» можа стварыць штучны дэфіцыт на танны прадукт, прымушаючы запраўляцца дарагім.

Дарэчы, увесь аб'ём саляркі выпускаецца на беларускіх НПЗ. Да гэтага часу больш якасны від дызельнага паліва Еўра-5 рэалізоўваўся толькі на экспарт.

**ЯМ**

## «Белпошта» канкуруе з кіроўцамі маршрутак

Новая паслуга — **перадача сумкі** ў іншы горад.

Ад 10 мая «Белпошта» ўвяла паслугу «Па дарозе», з дапамогай якой кампанія будзе канкураваць з кіроўцамі аўтобусаў і маршрутак. Тыя часцяком бяруць сумкі ці пакеты, каб перадаць іх у іншы горад за сімвалічную аплату. Паслуга нелегальная, і гарантыі дастаўкі ніхто не дае. «Белпошта» дзейнічае сур'ёзна: пасылка пламбуецца ў прысутнасці адпраўніка і адкрываецца толькі пры дастаўцы.

Тарыфы наступныя. За 20 тысяч рублёў можна перадаць канверт з дакументамі, а за 30 тысяч — сумку вагой да 20 кг. За дадатковыя 30 тысяч перадачу прывязуць адрасату дахаты.

Істотны мінус — малая колькасць пунктаў прыёму пасылак. Напрыклад, у Мінску толькі адзін: па адрасе Вакзальная, 22.

**ЯМ**

**Тэхналогіі**

## Усе мінскія кінатэатры стануць лічбавымі

І амаль усе будуць **паказваць 3D**.

Сёлета ў Мінску да чатырох наяўных лічбавых залаў дададуцца яшчэ восем. Абсталяванне заменяць у кінатэатрах «Кастрычнік», «Беларусь», «Дом кіно», «Аўрора», «Мір» і «Піянер». Да верасня ўсе невялікія кіназалы абсталююць і пад прагляд фільмаў у 3D («Кастрычнік» і «Дом кіно» будуць працаваць толькі ў фармаце 2D). А праз паўтара года на лічбавыя тэхналогіі пяройдуць усе кінатэатры.

Усяго ў Мінску налічваецца 25 кіназалаў. Для прывядзення ў парадак некаторых кінатэатраў УП «Кінавідэапракат» шукае інвестараў, паколькі іх мадэрнізацыя патрабуе значных сродкаў. Так, на аўкцыён выстаўляецца кінатэатр «Дружба». Ён запаўняецца толькі на 6%.

**БелТА**

**Сцісла:**

### Кожны другі — смартфон

Паводле экспертных ацэнак, смартфоны (разумныя тэлефоны) займаюць каля 40% рынку мабільных тэлефонаў Беларусі. Прычым аб'ёмы продажаў працягваюць расці. Высокі ўзровень прапановы забяспечваюць кітайскія вытворцы, напрыклад, ZTE і Huawei. А вось планшэтныя камп'ютары шырокай папулярнасці пакуль не займелі.

### Закрыецца ЗАГС каля плошчы Незалежнасці

У 2013 ЗАГС Маскоўскага раёна Мінска пераедзе з вуліцы Ленінградскай, каля Плошчы Незалежнасці і БДУ, да комплексу «Тытан» на праспекце Дзяржынскага. Там пачалося ўзвядзенне новага будынка з дзвюма заламі для рэгістрацыі і зімовым садам. Побач з ЗАГСам будзе сквер з воднай крыніцай для правядзення вясельных фотасесій.

### Кошт Facebook'а дасягнуў $104 мільярдаў

Самая папулярная ў свеце сацыяльная сетка Facebook выставіла на продаж свае акцыі. На думку аналітыкаў, яе каштоўныя паперы могуць вырасці ў цане яшчэ на 50%. Мяркуецца, што кампанія зможа зарабляць праз продаж мабільнікаў і планшэтных камп'ютараў.

**ЯМ**

## Прыватныя абвесткі

**ВІТАННІ**

Віншуем Насту і Юрася Юркевічаў з нараджэннем першынца. Расціце вялікія. Сябры

**ДАПАМОГА**

**Наста Азарка з Нясвіжа** — у мінулым асуджаная па крымінальнай справе Маладога Фронту — сама гадуе дачку Міхаліну. Дзіця яшчэ замалое, каб мама магла падпрацоўваць. Сябры просяць дапамагчы сям'і грашыма. Перавод можна зрабіць на наступны адрас: 222621 Нясвіжскі раён, вёска Рудаўка, вул.Юбілейная, 6-3, Азарка Настассі Аляксандраўне.

Прыватныя абвесткі ў «НН» можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце nann.by.




**Назад у СССР: у Беларусі святкуюць 90 год піянерыі. Урачыстасці прайшлі 19 мая на плошчы Перамогі ў Мінску.**




**«Фестываль агню» — упершыню ў Беларусі. На мінскім стадыёне «Трактар» сваё агнявое майстэрства дэманстравалі калектывы з Беларусі, Украіны, Літвы і Расіі. Непрыемнасцю для гледачоў сталася адмена супрацоўнікамі МНС часткі праграмы і агнявога шоу, таксама былі адменены палёты на паветраных шарах.**




**Наваполацкі «Нафтан» стаў уладальнікам Кубка Беларусі па футболе. У клуба цяпер складаны перыяд, некалькі месяцаў не плацяць заробкі. Тым не менш, каманда сабралася на вырашальны матч. 20 мая на «Дынама» навапалачане перамаглі ў серыі пенальці «Мінск». Апроч трафея, каманда заваявала пуцёўку ў Лігу Еўропы.**



**Кіраўнікі G8 глядзяць фінал Лігі чэмпіёнаў «Чэлсі» — «Баварыя». Колькі эмоцый, колькі экспрэсіі! Дэвід Кэмеран радаваўся больш за Ангелу Меркель: «Чэлсі» перамог «Баварыю».**

## Анекдоты

* * *

Пры адключэнні святла не радуйцеся, што ў вас ноўтбук. Хутчэй за ўсё вай-фай разам з электрычнасцю таксама адключылі.

* * *

Аркадзь не любіў паркур, прабежкі, экстрым, адрэналін. Але два суседскія доберманы раскрылі ў ім патэнцыял!

* * *

Сяргей Шнураў, якому Генпракуратура забараніла мацюкацца ў Мінску, прамаўчаў увесь канцэрт.

* * *

Лукашэнка сказаў, што ў дзяржаўным сцягу і гербе «адлюстравана слаўная шматвекавая гісторыя Беларусі, напоўненая старонкамі мужнасці і гераізму ў часы цяжкіх выпрабаванняў і вялікіх здзяйсненняў у гады стварэння». Так, гэта так! Бо менавіта пад такім сцягам Скарына, калі ў Піцер прыехаў, чытаў вершы Быкава.

* * *

З дзённіка будучай мамы: «Першыя пятнаццаць секунд цяжарнасці былі проста фантастычнымі!!!»

* * *

Гарвыканкам уводзіць новыя абмежаванні на продаж алкагольных напояў.

Калі яны ўжо зразумеюць, што цвярозы беларус — гэта патэнцыйны рэвалюцыянер?

* * *

У бабулі Марылі быў сёння надзвычай няўдалы дзень: і вафлі не атрымаліся, і ноўтбук унука сапсавала.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Кажуць, што губернатар Эрдэлі ўвосень кінець Мінск. Некаторыя блізкія людзі, главуныя цяпер, патроху гатовяць сабе ціхія куточкі. Адзін саветнік, што кватэраваў у губернатарскім доме, шукаець ужо кватэру, паліцмэйстар купіў у Ігуменскім павеце маёнтак. Саветнік С. купіў на краю Мінска фальварак Людамонт...

**«НН». №19-20. 1912.**

**Станіслаў Багданкевіч:** «Рублі з партрэтамі Скарыны, Багдановіча, Купалы былі надрукаваныя ў Дзяржзнаку Нямеччыны і дагэтуль ляжаць у сховішчы Нацбанка. Гэта не безабліччыя «зайчыкі»! Там ёсць «Пагоня», ёсць мой подпіс. Таму яны ў бліжэйшы час наўрад ці выйдуць у зварот».

**«НН». №19. 2002.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»: З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8003. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 22.05.2012.
Замова № 2225.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12